• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

5 кастрычніка 1996 г. субота, № 242 (23045)





# ЗВЯЗДА

**РОЗГАЛАС**

## КУДЫ ПАДЗЕЎСЯ МАРГАРЫН?

**Як, безумоўна, заўважылі апошнім часам хатнія гаспадыні, з продажу раптоўна знік такі айчынны прадукт харчавання, як звычайны сталовы маргарын.**

На змену яму на паліцах магазінаў з'явіўся шырока разрэкламаваны замежны аналаг «Rama».

Нават калі не браць пад увагу бясконцыя спрэчкі наконт бяспекі для здароўя гэтай прадукцыі, яна найперш адчувальна б'е спажыўца па кішэні: калі пачак вагою 250 грамаў айчыннага маргарыну каштуе не даражэй за 5 тысяч рублёў, дык «Rama» пры той жа вазе каштуе ледзь не ў тры разы даражэй — 13—14 тысяч рублёў.

Як вы разумееце, гэта сапраўдная раскоша для большасці пакупнікоў, якія, тым не менш, з-за адсутнасці выбару вымушаны плаціць такія грошы за неабходны прадукт. Няўжо айчынная вытворчасць не ў стане задаволіць патрэбы насельніцтва, што маргарын даводзіцца імпартаваць з-за мяжы?

Як адказаў на гэта пытанне намеснік дырэктара АТ «Мінскі маргарынавы завод» Генадзь Гінзбург, прадпрыемства можа пастаўляць сваю прадукцыю ў неабмежаванай колькасці. Аднак, нягледзячы на прапановы, гандаль чамусьці аддае перавагу замежнаму тавару, якім зараз завалены паліцы нашых магазінаў. Паводле слоў Генадзя Аляксандравіча, справа даходзіла нават да таго, што з-за адсутнасці зацікаўленасці ў набыцці тавару дзяржаўных структур прадукцыя пачынала псавацца. Зразумела, у такіх умовах прадпрыемства вымушана было пайсці на частковае скарачэнне вытворчасці. Маргарын, як вядома, прадукт далікатны, хутка псуецца, да таго ж патрэбны велізарныя вытраткі на набыццё сыравіны, а аддача — мінімальная. Зрэшты, як заявіў намеснік дырэктара, зараз на складах завода дастаткова запасаў, каб задаволіць любыя заяўкі не толькі Мінска, але і ўсіх абласцей. Дарэчы, з 2 кастрычніка АТ «Мінскі маргарынавы завод» знаходзіцца на двухтыднёвым штогадовым прафілактычным рамонце. Але, як адзначыў Генадзь Аляксандравіч, гэта зноў жа ніякім чынам не звязана з адсутнасцю прадукцыі прадпрыемства ў магазінах. Каб ліквідаваць гэтую недарэчнасць, зацікаўленасць тут найперш павінен праявіць гандаль.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПРАФСАЮЗЫ БУДУЦЬ ЗВЯРТАЦЦА Ў СУДЫ

**Калі на 25 жніўня агульная запазычанасць па зарплаце складала ў цэлым па краіне 953,9 млрд. рублёў, то за месяц, па стану на 25 верасня, яна крыху зменшылася — да 846,1 мільярда.**

Сітуацыя, між тым, па-ранейшаму застаецца складанай. Як вядома, паводле спецыяльнага ўказа Прэзідэнта, праблема запазычанасці павінна быць вырашана да 20 кастрычніка. Аднак ужо сёння гэтыя тэрміны падаюцца нерэальнымі, — да такой высновы прыйшлі днямі спецыялісты савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

Дарэчы, як паведамілі «Звяздзе» ў ПФБ, у бліжэйшы час прафсаюзы і Дзяржаўная інспекцыя працы маюць намер наладзіць строгі кантроль за пагашэннем усіх запазычанасцей. Пры гэтым прафсаюзамі прынята рашэнне: у выпадку неабходнасці інтарэсы працоўных будуць адстойвацца больш жорстка — праз суды.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ДА ВЕДАМА ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Чарговае пленарнае пасяджэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання адбудзецца 8 кастрычніка 1996 года ў 9 гадзін 30 хвілін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.



*Педагог пачатковых класаў Галіна Барысаўна ГРАМЫКА. Пасля эвакуацыі з горада Прыпяць яна прыехала ў пасёлак Дружны Пухавіцкага раёна і засталася вернай прафесіі настаўніка.*

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## ПАВАЖАНЫЯ ПЕДАГОГІ!

Горача і сардэчна віншую вас з прафесіянальным святам — Днём настаўніка.

Дзяржава высока цэніць настаўніцкую працу і будзе ўсімі сіламі садзейнічаць павышэнню яе сацыяльнага прэстыжу.

Перакананы, што вы ўнесяце яшчэ больш важкі ўклад у прагрэсіўнае развіццё нашага грамадства, якое стала на шлях радыкальных пераўтварэнняў.

Дзякуй вам за добрыя справы на ніве адукацыі і выхавання маладога пакалення, ад духоўна-маральнага, інтэлектуальнага патэнцыялу, грамадзянскай сталасці якога залежыць цяперашні і будучы дабрабыт нашай Бацькаўшчыны.

Жадаю кожнаму з вас невычэрпнага творчага натхнення, любві да сваіх выхаванцаў і асабістага шчасця.

Новых вам поспехаў у абучэнні навучэнскай моладзі, фарміраванні ў яе прафесіянальных і асобасных якасцей, што адпавядаюць крытэрыям цывілізаванага, дэмакратычнага грамадства і праваной дзяржавы.

**А. ЛУКАШЭНКА.**

4 кастрычніка 1996 года.

## НА ЛІКВІДАЦЫЮ ЗАПАЗЫЧАНАСЦІ ПА ЗАРПЛАЦЕ АДВЕДЗЕНА ЎСЯГО ДВА ТЫДНІ

Па ініцыятыве Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі 4 кастрычніка ў Мінску была праведзена нарада па сацыяльна-эканамічных пытаннях, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта краіны, члены ўрада і кіраўнікі цэнтральных органаў кіравання. Як адзначыў Прэзідэнт, неабходнасць правядзення такой нарады была прадыктавана перш за ўсё значнай колькасцю скаргаў і прапаноў, што паступаюць у яго адрас.

Прэзідэнт узяў за мэту дэталёва прааналізаваць выкананне яго ўказаў і даручэнняў па вырашэнню самых актуальных праблем. Таму што без эфектыўнай, зладжанай работы ўсіх органаў выканаўчай улады нельга дасягнуць жаданага выніку, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. А для гэтага неабходна шукаць новыя падыходы. Здавалася б, ёсць падставы для нармальнай работы ўсяго народна-гаспадарчага комплексу. Аднак, на думку кіраўніка дзяржавы, на справе атрымліваецца інакш. Становішча ў сацыяльнай і эканамічнай сферы, нягледзячы на сякія-такія зрухі, параненйшаму застаецца складаным. Таму, асноўныя арыенціры па паляпшэнню сітуацыі былі вызначаны нядаўна на аналагічнай нарадзе пры абмеркаванні праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця да 2000 года. Цяпер яна дапрацоўваецца і ў бліжэйшы час будзе вынесена на ўсенароднае абмеркаванне.

На нарадзе адбылася прынцыповая дзелавая і канкрэтная размова. З асноўным дакладам выступіў прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Ён падрабязна прааналізаваў сітуацыю ў эканоміцы, звярнуўшы асаблівую ўвагу на шляхі вырашэння праблем.

Па вынесеных на абмеркаванне пытаннях выступілі міністры: фінансаў — Павел Дзік, сацыяльнай абароны — Вольга Даргель, прамысловасці — Анатоль Харлап, сельскай гаспадаркі і харчавання — Васіль Лявонаў, старшыня праўлення Нацыянальнага банка Тамара Віннікава і іншыя. Яны не толькі гаварылі аб асноўных напрамках выхаду з узнікшага становішча ў эканоміцы, але і аб вырашэнні сацыяльных пытанняў, якія датычаць перш за ўсё ліквідацыі запазычанасці па заработнай плаце і выплаце пенсій. Было дасягнута агульнае ўзаемаразуменне ў тым, што свае «кроўныя» рабочыя павінны атрымаць да 20 кастрычніка. Вызначаны канкрэтны тэрмін і па выдачы матэрыяльнай дапамогі ў памеры пяці мінімальных зарплат работнікам бюджэтнай сферы, мнагадзетным сем'ям, а таксама аднаразовых дапамог пенсіянерам, якім маюць у гэтым вострую патрэбу. Усе названыя пытанні будуць знаходзіцца пад кантролем кіраўніка дзяржавы, і ў канцы гэтага месяца Аляксандр Лукашэнка яшчэ раз прааналізуе іх выкананне.

**БЕЛТА.**

## У БЫХАВЕ «РАСКРУЧВАЕЦЦА» «МАЛОЧНАЯ СПРАВА»

**З пралому ў сцяне і крадзяжу некалькіх мяхоў сухога малака пачалася крымінальная справа аб буйнамаштабных крадзяжах на малаказаводзе ў Быхаве.**

Аператыўнікі выкарысталі паслугі спецыялістаў па аб'ектах харчовай прамысловасці з абласнога цэнтра і выявілі, што парушэнне тэхналагічнага працэсу дазволіла жулікам штомесяц красці сухога малака на 1000 долараў ЗША.

Паводле папярэдніх даных, толькі за апошнія месяцы было ўкрадзена прадукцыі больш чым на 350 млн. рублёў. Але гэта сума напэўна шматразова ўзрасце, калі расследаванне будзе даведзена да канца. Ужо даказана, што крадзяжы такім чынам ажыццяўляліся на працягу трох гадоў.

Да адказнасці прыцягваюцца вядучыя спецыялісты малаказавода, рабочыя — усяго 14 чалавек. Двое з іх ужо арыштаваны.

**Аляксандр ЕКАЦЯРЫНЧАЎ, падпалкоўнік міліцыі, прэс-група УУС Магілёва.**

## ПРЭЗІДЭНТ ПАГЛЯДЗІЦЬ, ЯК ЖЫВЕ «МАЛІНАЎКА»

Мінскі мікрараён «Малінаўка» зноў стаў аб'ектам увагі Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі. Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, 5 кастрычніка ён азнаёміцца тут з жылой забудовай, добраўпарадкаваннем вуліц, двароў і сквераў.

Прэзідэнт наведае новы дом на вуліцы Слабадской, спецыяльна пабудаваны пры яго ўдзеле для прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі сталіцы. Ён пацікавіцца ходам будаўніцтва дзіцячай паліклінікі, індывідуальнага жылога дома, што ўзводзіцца па нарвежскаму праекту, сустрэнецца з рабочымі-будаўнікамі.

Аляксандр Лукашэнка таксама прыме ўдзел ва ўрачыстым адкрыцці ў «Малінаўцы» АТС на 12 тысяч тэлефонных нумароў і новай тралейбуснай лініі.

**БЕЛТА.**

## АДКРЫТЫЯ ЗНОСІНЫ ПРЭЗІДЭНТАЎ УМАЦОЎВАЮЦЬ ДАВЕР ПАМІЖ КРАІНАМІ

«Поўнасцю падзяляю думку, што нашы з вамі адкрытыя зносіны, якія апошнім часам сталі добрай традыцыяй, умацоўваюць давер паміж дзвюма нашымі краінамі. Упэўнены, што павага да інтарэсаў адна адной, узаемавыгаднае супрацоўніцтва, адкрытасць з'яўляюцца тым надзейным фундаментам, на якім павінны будавацца адносіны дзвюх дзяржаў-суседзяў.

Для ўкраінска-беларускіх адносін гэта мае яшчэ большае значэнне, паколькі пяць гадоў назад гісторыя адкрыла перад нашымі народамі шлях да дзяржаўнага будаўніцтва. Лёс распарадзіўся так, што нашы народы вякамі жывуць пляччо ў пляччо, як браты, і само панятак насілля супярэчыць іх менталітэту і маралі. Менавіта таму, як вы правільна заўважылі, на нашых землях захоўваецца мір і стабільнасць...» Аб гэтым гаворыцца ў пісьме кіраўніка ўкраінскай дзяржавы Леаніда Кучмы Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку.

Леанід Кучма выказаў таксама ўпэўненасць у тым, што толькі пры дасягненні кансенсусу паміж усімі наяўнымі палітычнымі сіламі грамадства магчыма пабудова працвітаючай дэмакратычнай дзяржавы. Менавіта з такіх пазіцый на Украіне разглядаюць ідэю агульнабеларускага рэферэндуму і падыходы да яе рэалізацыі.

**БЕЛТА.**

## УВАГА! «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

**Паважаныя чытачы! На ўсе вашы пытанні, якія датычацца сельскай гаспадаркі, адкажа міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь Васіль ЛЯВОНАЎ.**

Завяршаецца збор ураджаю сёлетняга года. Можна заўважыць, што гэтым летам, гэтай восенню працаўнікам аграпрамысловага комплексу пашчасціла: неблагі ўраджай збожжавых, неблагі ўраджай бульбы. Але ж, безумоўна, усё гэта дасталося дзякуючы самаахвярнай працы вяскоўцаў. Сёння ў працаўнікоў сельскай гаспадаркі процьма праблем, клопатаў. Не кожнаму, безумоўна, удаецца дзеля вырашэння іх выйсці на самыя высокія інстанцыі. «Звязда» аказвае вам у гэтым дапамогу. **7 кастрычніка** на вашы пытанні, паважаныя чытачы, адкажа міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь Васіль Севасцьянавіч Лявонаў, адбудзецца гэта ў час «Прамой лініі».

**Звaніце па тэлефонах: 232—38-21 і 232-38-92 з 11 да 12 гадзін. Папярэдне задавайце пытанні па тэлефонах: 268-28-72; 268-27-51.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

❑ Нядоімка па падатках і плацяжах у дзяржаўны бюджэт на 1 верасня **склала 2.445,6 мільярда рублёў**, або 9,8 працэнта ад агульнага аб'ёму падатковых паступленняў, у тым ліку па падатку на прыбытак — 447,2 мільярда рублёў, або 10,6 працэнта ад усёй сумы паступленняў гэтага віду падаткаў, падатку на дабаўленую вартасць — 993,6 мільярда рублёў, або 11,9 працэнта, акцызах — 62,9 мільярда рублёў, або 1,9 працэнта.

❑ На 1 жніўня найбольшая ўдзельная вага стратных прадпрыемстваў прыпадала на **галіны невытворчай сферы** (жыллёва-камунальную гаспадарку, бытавое абслугоўванне насельніцтва, культуры і мастацтва).

❑ Мукамольная прамысловасць за 7 месяцаў выраблена **376,1 тысячы тон мукі**, што на 10,4 працэнта больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года.

❑ Сёння толькі 19 працэнтаў усходніх немцаў лічаць, што **«сацыялізм быў гістарычна асуджанай сістэмай»**, а амаль кожны сёмы жадаў бы вяртання ГДР.

❑ **Жанчыны** Еўропы, якія традыцыйна выступалі ў ролі хатніх гаспадынь, **робяцца карміцелькамі** сваіх сем'яў: па частцы занятасці ў сферы працы сярод іх лідзіруюць Швецыя (71 працэнт) і Данія (66 працэнтаў).

❑ Звыш 80 працэнтаў насельніцтва **мае даходы** ніжэй за мінімальны спажывецкі бюджэт.

❑ За 9 месяцаў беларускія **аўтамабілісты** зрабілі 22.146 паездак у Германію.

❑ Як сцвярджаюць літоўскія статыстыкі, у жніўні **дзяржапарат Беларусі** атрымліваў у сярэднім па 87,38 долара ЗША.

❑ Сёння на сусветных рынках **трактары «Беларусь»** займаюць 8 працэнтаў у агульным аб'ёме продажу.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 398

### АБ НЕАДКЛАДНЫХ МЕРАХ ПА ФІНАНСАВА-ЭКАНАМІЧНАМУ АЗДАРАЎЛЕННЮ СУБ'ЕКТАЎ ГАСПАДАРАННЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У мэтах стварэння ўмоў для фінансава-эканамічнага аздараўлення суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю**:

1. Вызваліць у 1996—1997 гадах суб'екты гаспадарання ад выплаты падаткаў на прыбытак і на дабаўленую вартасць па выніках продажу асноўных фондаў пры ўмове накіравання атрыманай выручкі на мадэрнізацыю і абнаўленне асноўных вытворчых фондаў, а таксама на папаўненне абаротных сродкаў (не больш за 50 працэнтаў выручкі).

2. Адтэрмінаваць да 1 студзеня 1997 г. прамысловым прадпрыемствам пагашэнне бюджэтных пазык, атрыманых да 1 жніўня 1996 г., і вызваліць іх ад выплаты пені, налічанай за пратэрміноўку пагашэння гэтых пазык.

Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь у выпадку неабходнасці на аснове прапаноў міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання і гаспадарчых аб'яднанняў, створаных па рашэнню ўрада Рэспублікі Беларусь, прадаўжаць адтэрміноўку пагашэння названых бюджэтных пазык.

3. Адтэрмінаваць да 1 студзеня 1998 г. прадпрыемствам машынабудавання, якія знаходзяцца ў распараджэнні Міністэрства прамысловасці, пагашэнне запазычанасці па плацяжах у дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды, што ўтварылася на 1 ліпеня 1996 г., пры ўмове ўнясення гэтымі прадпрыемствамі бягучых плацяжоў у названыя фонды, а таксама аплаты працы іх работнікаў да пагашэння гэтай запазычанасці ў адпаведнасці з Адзінай тарыфнай сеткай работнікаў Рэспублікі Беларусь з прымяненнем тарыфнай стаўкі першага разраду, якая дзейнічала на гэтых прадпрыемствах па стану на 1 ліпеня 1996 г., з улікам каэфіцыентаў павышэння тарыфных ставак рабочых па тэхналагічных відах работ, вытворчасцях і галінах эканомікі. Пры ўстанаўленні Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь тарыфнай стаўкі першага разраду, вышэйшай за стаўку, што дзейнічае на гэтых прадпрыемствах, аплата працы работнікаў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з рэспубліканскімі тарыфамі аплаты працы.

Названая запазычанасць па плацяжах у дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды пагашаецца ў перыяд са студзеня 1998 г. па студзень 2000 г. шляхам выплаты 1/24 гэтай сумы кожны месяц без налічэння пені і штрафаў на суму запазычанасці, што падлягае адтэрміноўцы.

У выпадку нявыплаты запазычанасці па плацяжах у дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды ва ўстаноўлены тэрмін пеня налічаецца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

4. Не пашыраць на прадпрыемствы машынабудавання, што знаходзяцца ў распараджэнні Міністэрства прамысловасці, дзеянне пунктаў 1—3 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13 жніўня 1996 г. № 292 «Аб прадастаўленні юрыдычным асобам адтэрміноўкі па выплаце запазычанасці па падатках і пені».

5. Міністэрству прамысловасці, іншым міністэрствам і цэнтральным органам кіравання, падведамасныя прадпрыемствы якіх ажыццяўляюць выпуск прамысловай прадукцыі, гаспадарчым аб'яднанням, створаным па рашэнню ўрада Рэспублікі Беларусь:

5.1. У IV квартале 1996 г. вызначыць пералік прадпрыемстваў, што маюць плацежаздольны рынак, структураўтваральную і горадаўтваральную значнасць, для аказання ім дзяржаўнай падтрымкі;

5.2. Да 1 лістапада 1996 г. завяршыць работу па кансервацыі невыкарыстоўваемых магутнасцей, да канца 1996 года выдаць каталогі невыкарыстоўваемых асноўных фондаў і прадставіць іх зацікаўленым;

5.3. Сумесна з аблвыканкомамі і Мінскім гарвыканкомам да канца 1996 года распрацаваць праграмы, дзе прадугледжваліся б рэструктурызацыя буйных прамысловых прадпрыемстваў і стварэнне на іх базе мабільных вытворчых структур, паэтапная перадача ў камунальную ўласнасць аб'ектаў сацыяльнай сферы, стварэнне новых рабочых месцаў для забеспячэння занятасці выслабаняемых работнікаў;

5.4. Па ўзгадненню з Міністэрствам статыстыкі і аналізу, Міністэрствам фінансаў і Міністэрствам эканомікі да 1 снежня 1996 г. распрацаваць і зацвердзіць гранічныя галіновыя каэфіцыенты ўцэнкі асноўных фондаў (па групах) па стану на 1 студзеня 1997 г.

6. Абзац другі часткі другой пункта 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 лютага 1995 г. № 52 «Аб устанаўленні парадку рэгулявання экспартна-імпартных і валютных аперацый і аб павышэнні адказнасці за парушэнне заканадаўства ў галіне знешнеэканамічнай дзейнасці» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 5, арт.98; 1996 г., № 11, арт.282) пасля слоў: «па экспартнаму кантракту» дапоўніць словамі: «у тым ліку ў дзяржавы—удзельніцы Садружнасці Незалежных Дзяржаў».

7. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

4 кастрычніка 1996 г., г.Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 399

### АБ МЕРАХ ПА ПАСКАРЭННЮ РЭАЛІЗАЦЫІ ПРАДУКЦЫІ ПРАМЫСЛОВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ

У мэтах паскарэння рэалізацыі і расшырэння рынкаў збыту прадукцыі, што выпускаецца прамысловымі прадпрыемствамі, **пастанаўляю:**

1. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь падрыхтаваць і да 1 снежня 1996 г. унесці ў Выканаўчы Камітэт Супольніцтва Беларусі і Расіі прапановы:

аб захаванні ўстойлівай спецыялізацыі прадпрыемстваў і аб адмове на ўзаемаўзгодненых умовах ад стварэння вытворчасцей-дублёраў;

аб узгадненні дзеянняў экспарцёраў на рынках трэціх краін, каб пазбегнуць неабгрунтаванай канкурэнцыі;

аб устараненні нядобрасумленнай канкурэнцыі;

аб абмежаванні завышэння цэн на прадукцыю прадпрыемстваў-манапалістаў, што пастаўляецца па кааперацыі;

аб сумесным фінансаванні навукова-тэхнічных праграм;

аб фарміраванні адзінага заказу на спецыяльныя тэхніку і вырабы.

2. Міністэрству прамысловасці, іншым цэтральным органам кіравання, гаспадарчым аб'яднанням, створаным па рашэнню ўрада Рэспублікі Беларусь:

2.1. Да канца 1996 года забяспечыць змяншэнне рэшткаў гатовай прадукцыі на складах падведамасных прамысловых прадпрыемстваў у параўнанні з рэшткамі яе на 1 ліпеня 1996 г. без зніжэння пры гэтым аб'ёмаў вытворчасці прадукцыі супраць узроўню мінулага года. У месячны тэрмін разгледзець па кожнаму прамысловаму прадпрыемству графікі рэалізацыі прадукцыі і ўстанавіць персанальную адказнасць кіраўнікоў за іх выкананне;

2.2. У трохмесячны тэрмін прадставіць Міністэрству знешніх эканамічных сувязей і Міністэрству замежных спраў для перадачы імі гандлёвым прадстаўніцтвам і пасольствам каталогі прадукцыі, што выпускаецца прамысловымі прадпрыемствамі рэспублікі, і пералікі інвестыцыйных праектаў, якія прапануюцца для рэалізацыі з удзелам замежных інвестараў;

2.3. Да канца 1996 года забяспечыць рэарганізацыю маркетынгавых і збытавых службаў прамысловых прадпрыемстваў, увязаўшы аплату працы работнікаў названых службаў з аб'ёмамі рэалізацыі прадукцыі, што выпускаецца гэтымі прадпрыемствамі.

3. Падтрымаць ініцыятыву Міністэрства прамысловасці па стварэнню Цэнтра прамысловага маркетынгу, фірменнага гандлю і выставак з ускладаннем на яго функцый па правядзенню выставак-продажаў прадукцыі, каардынацыі збытавой дзейнасці прамысловых прадпрыемстваў.

Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сумесна з Міністэрствам прамысловасці вырашыць пытанне аб выдзяленні памяшкання для размяшчэння названага Цэнтра.

4. Міністэрству знешніх эканамічных сувязей з удзелам зацікаўленых дзяржаўных органаў, а таксама гаспадарчых аб'яднанняў, створаных па рашэнню ўрада Рэспублікі Беларусь, штогод распрацоўваць і рэалізоўваць планы правядзення ў асноўных рэгіёнах дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў кірмашоў-продажаў прадукцыі прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі.

5. Міністэрству фінансаў:

5.1. З удзелам Нацыянальнага банка падрыхтаваць і ўнесці ў Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь праекты заканадаўчых актаў, якія рэгламентуюць вэксальнае абарачэнне ў рэспубліцы;

5.2. Накіроўваць сродкі рэспубліканскага пазабюджэтнага фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і харчавання ў межах сум, якія адлічаюцца ў яго прамысловымі прадпрыемствамі Міністэрства прамысловасці, на закупку сельскагаспадарчай тэхнікі, што выпускаецца гэтымі прадпрыемствамі.

6. Органам выканаўчай улады распрацаваць з улікам мясцовых і галіновых асаблівасцей і ажыццявіць меры па паскарэнню рэалізацыі прадукцыі прамысловых прадпрыемстваў, якія забяспечваюць выкананне гэтага Указа.

7. Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь у другім паўгоддзі 1996 г. арганізаваць курсы павышэння кваліфікацыі розных катэгорый работнікаў міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання і прамысловых прадпрыемстваў па пытаннях кан'юнктуры рынку і арганізацыі збыту прадукцыі, а таксама штогод праводзіць семінары па актуальных праблемах маркетынгу.

8. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

4 кастрычніка 1996 г. г. Мінск.

*ПРАЦЯГ ТЭМЫ*

## ЧУТКІ ПРА ГАНДАЛЬ МІНІСТЭРСТВА АБАРОНЫ БЕЛАРУСІ ВАЕННЫМІ ТЭХНАЛОГІЯМІ НЕ ПАЦВЕРДЗІЛІСЯ

**Шмат увагі прыцягнуў да сябе візіт міністра абароны Беларусі генерала Леаніда Мальцава ў Кітайскую Народную Рэспубліку, які доўжыўся больш за тыдзень.**

Як пісала «Звязда», галоўнай тэмай візіту было падпісанне двухбаковага пагаднення аб супрацоўніцтве паміж краінамі. Гэта была так званая афіцыйная версія. У хуткім часе з'явіліся і іншыя меркаванні. Галоўным чынам у замежных журналістаў, акрэдытаваных у Пекіне, — па прычыне таго, што перамовы вяліся за зачыненымі дзвярамі. Быў сярод іх і карэспандэнт расійскай газеты «Известия», які і выклаў гэтую «неафіцыйную» версію ў артыкуле «Кітайская карта беларускага генерала». Яе асноўны момант: у Пекіне вяліся перамовы аб продажы Беларуссю некаторых ваенных тэхналогій кітайскім калегам. Каб высветліць сітуацыю, карэспандэнт «Звязды» звярнуўся ў прэс-цэнтр Міністэрства абароны Беларусі.

Асноўным вынікам візіту міністра абароны Беларусі Леаніда Мальцава ў Кітай стала падпісанне мемарандума аб далейшым паглыбленні і пашырэнні супрацоўніцтва ў ваенна-тэхнічнай галіне паміж ваеннымі ведамствамі дзвюх краін, паведаміў прадстаўнік прэс-цэнтра. Падчас візіту члены беларускай дэлегацыі правялі перамовы з кіраўніцтвам арміі Кітая, наведалі некалькі дывізій, штаб ВПС, Акадэмію нацыянальнай абароны і некаторыя іншыя аб'екты. У выніку візіту заключана таксама пагадненне аб пастаўцы кітайскім бокам медыцынскага абсталявання на суму 500 тысяч долараў для беларускага ваеннага шпіталя. Што датычыцца чутак пра гандаль ваеннымі тэхналогіямі, дык у прэс-цэнтры беларускага ваеннага ведамства такой інфармацыі няма.

**Сяргей ПРОТАС.**

### СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.18 | 18.38 | 11.20 |
| Віцебск – | 7.09 | 18.27 | 11.18 |
| Магілёў – | 7.07 | 18.28 | 11.21 |
| Гомель – | 7.05 | 18.24 | 11.19 |
| Гродна – | 7.34 | 18.51 | 11.17 |
| Брэст – | 7.32 | 18.56 | 11.24 |

**МЕСЯЦ**

**Апошняя квадра 4 кастрычніка**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Іоны, Пятра, Макарыя.**

**К. Плацыды, Апаленара, Фаустыны Кавальскай.**

**НАДВОР`Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Брэсце — 15—17, Гродне — 14—16, Мінску, Гомелі — 13—15, Магілёве, Віцебску — 12—14 градусаў.

У наступныя двое сутак малавоблачна, пераважна без ападкаў. Тэмпература ўначы — 5—10, удзень — 14—19 градусаў цяпла.

*ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

**АДНАЎЛЯЦЬ ГАСПАДАРКУ ЧАЧНІ ДАПАМОЖА РАСІЯ**

Прэм'ер-міністр Расіі Чарнамырдзін, сакратар Савета бяспекі Лебедзь і прэзідэнт Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя Яндарбіеў падпісалі дакумент аб стварэнні сумеснай камісіі, якая будзе займацца шырокім кругам праблем, у тым ліку аднаўленнем гаспадаркі Чачні. Камісія будзе знаходзіцца ў Грозным і збірацца не радзей аднаго раза ў тыдзень. Па словах Чарнамырдзіна, сустаршыні камісіі будуць назначаны не пазней 10 кастрычніка.

**КАБУЛ ЗАХЛІСНУЛА ХВАЛЯ РЭПРЭСІЙ**

Прадстаўнікі афганскага руху «Талібан» абверглі чуткі пра тое, што ў Кабуле праходзяць арышты прыхільнікаў звергнутага ўрада прэзідэнта Рабані. Паводле даных праваахоўнай арганізацыі «Міжнародная амністыя», за апошнія дні па палітычных матывах былі арыштаваны каля тысячы чалавек. Лідэр талібаў мула Амар выдаў указ, які забараняе жыхарам Кабула пакідаць горад. Ва ўказе таксама ўтрымліваецца заклік да сусветнага супольніцтва прызнаць новы ўрад.

**ЖЫХАРЫ ВЕРНУЦЦА Ў ВЁСКУ ПАД АХОВАЙ ААН**

Як паведаміў міжнародны міратворчы кантынгент у Босніі і Герцагавіне, уцекачы-мусульмане пакінулі вёску на тэрыторыі, якую кантралююць сербы. У адпаведнасці з заключанымі ўчора пагадненнямі, яны змогуць вярнуцца назад праз некалькі дзён пад абаронай ААН. Некалькі тыдняў таму невялікая група мусульман вярнулася ў вёску для аднаўлення сваіх дамоў, разбураных падчас вайны. Міжнародныя міратворчыя сілы расцанілі гэта як правакацыю, паколькі некаторыя з мусульман былі ўзброены. Вёска ўзята пад ахову да канчатковага вяртання ўцекачоў.

**ЛІДЭРЫ КРАІН СНД АБМЕРКАВАЛІ СТАНОВІШЧА Ў АФГАНІСТАНЕ**

Прэзідэнт Казахстана Назарбаеў заклікаў іншыя краіны не ўмешвацца ва ўнутраныя справы Афганістана. Прэзідэнт падкрэсліў, што такая пазіцыя асабліва важная, паколькі ў Афганістане сутыкаюцца інтарэсы многіх вялікіх дзяржаў. Агенцтва Рэйтар паведаміла, што выступленне Назарбаева перад журналістамі папярэднічала сустрэчы лідэраў сярэднеазіяцкіх краін СНД і Расіі, якая адбылася ў пятніцу вечарам у Алма-Аце. Сустрэча прысвечана становішчу ў Афганістане.

**ГАРБАЧОЎ НАМАГАЕЦЦА «СПІХНУЦЬ» ЕЛЬЦЫНА**

Былы прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў зноў заклікаў прэзідэнта Барыса Ельцына пайсці ў адстаўку, паколькі расійскі прэзідэнт, па словах Гарбачова, вычарпаў свой фізічны і палітычны патэнцыял. Падчас выступлення перад журналістамі ў амерыканскім горадзе Сан-Францыска Гарбачоў успомніў час, калі ён быў членам Палітбюро ЦК КПСС і быў сведкам таго, як хвароба генеральных сакратароў Леаніда Брэжнева, Юрыя Андропава і Канстанціна Чарненкі ўскладняла працэс кіраўніцтва дзяржавай. Па словах Гарбачова, вось ужо некалькі месяцаў Ельцын не выконвае сваіх абавязкаў і краіна засталася без прэзідэнта.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

## МЗС СПРАБУЕ ЗАГЛАДЗІЦЬ НЕПАРАЗУМЕННЕ З ПАСЛАМІ

**Чарговы брыфінг у МЗС краіны правёў першы намеснік міністра Валерый Цапкала.**

Менавіта яму выпала непрыемная місія растлумачваць абставіны так званай «змовы» паслоў заходніх краін — членаў НАТО. Звычайна адкрыты для дыскусіі, знаходлівы на адказы, у тым ліку на вострыя і складаныя для афіцыйнага каменціравання пытанні, на гэты раз Валерый Вільямавіч быў нешматслоўны.

Ён пацвердзіў, што 30 верасня г. г. у МЗС адбылася сустрэча з пасламі Вялікабрытаніі, ЗША, Францыі, Італіі і ФРГ. У час гутаркі, як вельмі дыпламатычна выказаўся намеснік міністра, была падкрэслена неабходнасць захавання Беларуссю палажэнняў Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах, а таксама аб правах паслоў свабодна ўступаць у кантакты, абмяркоўваць любыя пытанні, якія датычаць унутрыпалітычнай сітуацыі ў Беларусі, каб лепш разумець развіццё працэсаў у нашай краіне, наладжваць супрацоўніцтва.

Пікантнасць сітуацыі яшчэ і ў тым, што краіны, якія прадстаўляюць вышэйназваныя паслы, з'яўляюцца донарамі Беларусі. І псаваць з імі нам адносіны зусім не варта.

У час гэтай сустрэчы пасол ЗША пан Яловіц выказаў просьбу аб тым, каб МЗС краіны звярнулася да дзяржаўных і недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі не паказваць дзейнасць паслоў у негатыўным плане, устрымацца ад абраз.

Са свайго боку прадстаўнікі МЗС заявілі, што ніколі не ставілі пад сумненне ніводнае палажэнне адпаведнай Венскай канвенцыі, а Беларусь зацікаўлена ў пашырэнні дыпламатычнай прысутнасці ў Мінску і гатова стварыць максімальна зручныя ўмовы працы для дыпламатаў.

Падобныя тлумачэнні не зусім задаволілі прысутных, але на іншыя ўдакладняльныя пытанні Валерый Цапкала адказваў надзвычай лаканічна. Яму, як, дарэчы, і іншым высокапастаўленым беларускім дыпламатам, можна было толькі паспачуваць. Няўдзячная гэта праца — браць на сябе ролю тлумачальніка неасцярожных выказванняў першых асоб дзяржавы, знаходзіць мяккія, абцякальныя фармулёўкі, згладжваць узнікшыя пасля рэзкіх публічных заяў супярэчнасці.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## *Віншаванні*

✿ *З Днём настаўніка шчыра віншуем увесь настаўніцкі калектыў СШ № 190 г. Мінска. Здароўя вам і поспехаў у вашай высакароднай справе. Няхай ніколі не менее энтузіязму, з якім вы працуеце ў такі складаны час.*

***Сям'я Шпілеўскіх.***

✿ *Сардэчна віншуем з днём нараджэння Валянціну Міхайлаўну Дзялец з в. Гірмантоўцы. Жадаем здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця.*

***Сям'я Капавальчыкаў.***

✿ *Віншуем з днём нараджэння любую матулю і бабулю Алену Анісімаўну Паляшчук. Жадаем здароўя, бадзёрасці.*

***Дзеці, унукі і праўнукі.***

✿ *Віншуем дарагую матулечку і любую жонку Галіну Казіміраўну Рубчэню з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя і доўгага жыцця.*

***Дочкі, муж, в. Зарытава.***

✿ *Віншую з Днём настаўніка Таццяну Аляксееўну Аляксееву з г. п. Варапаева. Жадаю ўсяго найлепшага.*

***Аднакурсніца Хадорых Святлана.***

✿ *Ад шчырага сэрца віншуем любую жонку і дарагую матулю Святлану Барысаўну Беляновіч з Днём настаўніка. Жадаем заўсёды быць добрай, прыгожай і шчаслівай. Ніколі не старэць душой.*

***Муж, сыны Валера і Мікола, в. Акцябр.***

✿ *Віншую са святам самую прыгожую і абаяльную Аксану Міхайлаўну Шайтанаву з г. Мінска. Дзякуй за тваё хараство.*

***Валерый Мядзведзеў.***

✿ *Сардэчна віншуем Ганну Ільінічну Самкову з 75-годдзем. Здароўя, шчасця, дабрабыту Вам, дарагі чалавек.*

***Сцяпан і Вера Говіны, г. Мінск.***

✿ *Ад усёй душы сардэчна віншую з Днём настаўніка Георгія Уладзіміравіча Хадорыка і яго жонку. Жадаю здароўя, сямейнага дабрабыту, добрых вучняў.*

***Сястра Святлана з в. Акцябр.***

✿ *Віншуем матулю Чаславу Валяр'янаўну Ткачук з 55-годдзем. Жадаем усяго найлепшага.*

***Дзеці, унучкі, г. Гродна.***

✿ *Віншуем з днём нараджэння Людмілу Чаславаўну Бабаеву, якая працуе настаўніцай у Сёмкаўскай СШ. Жадаем яснага сонейка, светлай радасці, шчаслівага жыцця і моцнага здароўя.*

***Мама, тата, муж, дзеці, брат з сям'ёй.***

✿ *Сардэчна віншуем дарагую мамачку і бабулю Яніну Сямёнаўну Пілко з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.*

***Любячыя цябе дзеці і ўнукі, в. Каплановічы.***

✿ *Віншуем з днём нараджэння Сяргея Грынько з в. Масцішча Навагрудскага раёна. Жадаем усяго найлепшага ў жыцці.*

***Сям'я Барадзін з в. Пліса- 2.***

✿ *Віншуем любага татачку Івана Іванавіча Філіпчука з в. Падкраічы Бярозаўскага раёна з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў.*

***З віншаваннямі жонка, дзеці, унучкі.***

# Валерый ТАЛКАЧОЎ: «ПРЭЗІДЭНТ НАСТРОЕНЫ НА СТВАРАЛЬНУЮ ПРАЦУ, МАЮЧЫ ДОБРА ПРАДУМАНУЮ ЎЛАСНУЮ ПРАГРАМУ ДЗЕЯННЯЎ»

**З кіраўніком прэс-службы Прэзідэнта Беларусі Валерыем ТАЛКАЧОВЫМ гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса» Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ**

**— Валерый Іванавіч! Цяпер ва ўсіх на вуснах канфлікт паміж Прэзідэнтам і парламентам. Паводле ацэнак некаторых назіральнікаў, процістаянне зайшло настолькі далёка, што бакі ўжо не могуць павярнуць гэты працэс назад. Якім вам бачыцца выхад з такога крызісу?**

— На мой погляд, якой-небудзь значнай падставы для ўзнікнення канфлікту паміж парламентам і Прэзідэнтам наогул не было і няма.

Зусім відавочна, што галоўнай умовай паспяховага ўзаемадзеяння паміж дзяржаўнымі галінамі ўлады з'яўляецца дасканалая заканадаўчая база, і ў першую чаргу Канстытуцыя. Задача парламента, згодна з нават цяпер дзеючым Асноўным законам краіны, заключаецца не ў тым, каб непасрэдна кіраваць рэспублікай, а ў тым, каб напрацоўваць і разумець законы, па якіх яна будзе жыць і развівацца. На жаль, замест гэтага Вярхоўны Савет, а дакладней група дэпутатаў, уцягнула заканадаўчы орган у процістаянне Прэзідэнту. Прычым узнікла гэта процістаянне, паўтараю, зусім беспадстаўна.

Каб пазбегнуць у будучыні розных праблем, у прыватнасці, паўтарэння парламенцкага крызісу, у які на доўгіх восем месяцаў была ўцягнута рэспубліка два гады назад з-за недасканаласці шэрага палажэнняў цяперашняй Канстытуцыі, каб удасканальваць саму сістэму дзяржаўнага ўладкавання з улікам жыццёвых рэалій, каб больш дакладна рэгламентаваць паўнамоцтвы галін улады, Аляксандр Рыгоравіч прапанаваў правесці ўсенародны рэферэндум па прыняццю новай рэдакцыі Асноўнага закона краіны. Тэкст праекта дакумента быў апублікаваны ва ўсіх сродках масавай інфармацыі Беларусі з тым, каб максімальная колькасць грамадзян, працоўныя калектывы, спецыялісты атрымалі б магчымасць абмеркаваць дакумент, унесці ў яго свае прапановы. Днямі спецыяльна створаная камісія дапрацоўвае праект новай Канстытуцыі з улікам паступіўшых заўваг і прапаноў пасля чаго дакумент будзе абмеркаваны на Усебеларускім народным сходзе. Ён, як вядома, адбудзецца 19 кастрычніка. І ўжо пасля гэтага канчатковы варыянт праекта новай Канстытуцыі будзе вынесены на рэферэндум.

Скажыце, што канкрэтна ў гэтай працэдуры супярэчыць дэмакратычным прынцыпам? У чым праяўляецца імкненне Прэзідэнта стварыць «таталітарны рэжым», аб якім не стамляюцца паўтараць асобныя палітыкі? У тым, што народу будзе прадастаўлена права самому вырашаць, па якой Канстытуцыі жыць?

Зацвердзіўшы ў свой час прапанаваную Прэзідэнтам праграму неадкладных мераў па выхаду рэспублікі з эканамічнага крызісу, Вярхоўны Савет нічога не зрабіў для стварэння нармальнай прававой базы, якая б дала магчымасць у поўнай меры рэалізаваць намечанае. Адсутнасць неабходных законаў ускладніла работу ўрада.

Многія законы рэспублікі проста маральна ўстарэлі. Значная іх частка, напрыклад, Крымінальны кодэкс, былі прыняты яшчэ ў шасцідзесятыя гады. Значных змяненняў патрабуюць пяршаступенныя для эканомікі — падатковае і мытнае заканадаўствы.

Сваю непасрэдную задачу — заканатворчасць — парламент у належным аб'ёме не выконвае. Відаць таму, што проста няма калі. Будучы ўцягнутым у палітычныя гульні групай аб'яднаных як «левых», так і «правых» апазіцыянераў, Вярхоўны Савет губляе вялікую частку часу сваіх пасяджэнняў на абмеркаванне бягучых палітычных падзей і прыняцце рашэнняў, якія, па вялікаму рахунку, не знаходзяцца ў кампетэнцыі заканадаўцаў.

Прэзідэнт неаднаразова спрабаваў пераканаць парламентарыяў у згубнасці такога курсу, шукаючы шляхі да ўрэгулявання процістаяння. Ён сустракаўся з членамі практычна ўсіх фракцый парламента, з асобнымі дэпутатамі, прапануючы канкрэтныя варыянты дзеянняў, накіраваных на падтрымку ідэі прыняцця Асноўнага закона рэспублікі на ўсенародным рэферэндуме 7 лістапада. Аднак у парламенце пакуль пераважаюць сілы, якія па закліках лідэраў кампартыі робяць намаганні па вяртанню ў рэспубліку мадэлі Вярхоўнага Савета старой савецкай сістэмы. Актывісты кампартыі ў парламенце прапануюць прыняць распрацаваны імі варыянт новай Канстытуцыі, згодна з якім у дзяржаве наогул ліквідуецца інстытут прэзідэнцкай улады і зноў, як у часы С. Шушкевіча, які заўсёды скардзіўся на недахват паўнамоцтваў прымаць якое-небудзь канкрэтнае рашэнне, рэспубліка будзе ўцягнута ў хаос, пры якім ніякі начальнік ні за што не будзе адказваць.

Бальшавікамі Саветы розных узроўняў задумваліся як органы, якія нясуць калектыўную адказнасць за прымаемыя рашэнні ва ўмовах галоўнай ролі партыі. Практыка паказала, што яны ператвараюцца ў органы, якія нясуць калектыўную безадказнасць, калі, дзейнічаючы самі па сабе, яны знаходзяцца ў сістэме дзяржаўнага ўладкавання, якое не прадугледжвае «вядучай і накіроўваючай ролі партыі» або інстытута прэзідэнцкай улады.

Сама пастаноўка пытання аб ліквідацыі інстытута прэзідэнцкай улады абсурдная, таму што зусім нядаўна народ выбраў на свабодных выбарах кіраўніка дзяржавы, прагаласаваўшы тым самым і за ўвядзенне інстытута прэзідэнцтва. Калі б людзі пярэчылі супраць такой формы кіраўніцтва, то выбары проста не адбыліся б. Акрамя таго, вяртанне да сістэмы парламенцкай рэспублікі цяпер, у перыяд правядзення эканамічных рэформаў проста згубнае для Беларусі.

Адмена пасады прэзідэнта нанесла б непапраўныя страты аўтарытэту Беларусі на міжнароднай арэне. Хто, як не Прэзідэнт, будзе прадстаўляць рэспубліку на сустрэчах у вярхах, на самітах кіраўнікоў краін СНД?..

Не сумняваюся, што народ не падтрымае ініцыятыву Вярхоўнага Савета аб ліквідацыі інстытута прэзідэнцтва.

Тым не менш, парламент спрабуе навязаць свае правілы, з любой прычыны звяртаючыся па падтрымку ў сфарміраваны ім жа Канстытуцыйны суд. Той, замест таго, каб, згодна з цяперашняй Канстытуцыяй, даваць толькі юрыдычную ацэнку па прынцыпу «правільна» або «няправільна», дазваляе сабе палітычныя тлумачэнні таго ці іншага рашэння Прэзідэнта. Па сутнасці, усе прэтэнзіі, якія ўзнікаюць на розных узроўнях, зводзяцца да таго, што ва ўсім і заўсёды вінаваты толькі адзін Прэзідэнт. У выніку стварылася тупіковая сітуацыя: кіраўнікі парламента не жадаюць ісці на кампраміс з-за сваіх амбіцый.

Прэзідэнт заўсёды падкрэсліваў, што ён ніколі не пойдзе на парушэнне Канстытуцыі, заўсёды будзе дзейнічаць у рамках Асноўнага закона. Калі б Прэзідэнт на самай справе пажадаў устанавіць у Беларусі дыктатарскі рэжым, для гэтага, паверце, ён мог бы не пытацца меркавання ні Вярхоўнага Савета, ні Канстытуцыйнага суда, а карыстацца артыкулам 100 цяперашняй Канстытуцыі, якая мае на ўвазе фактычна неабмежаваныя паўнамоцтвы кіраўніка дзяржавы.

**— Знешняя палітыка Беларусі ў першую чаргу арыентавана на Расію. Якія, на ваш погляд, праблемы існуюць у развіцці беларуска-расійскіх адносінаў?**

— Беларуска-расійскім адносінам неабходна надаць дынамізм, іх трэба пастаянна напаўняць канкрэтным зместам. Гэта добра разумеюць кіраўнікі абедзвюх краін.

Як вядома, прэзідэнт Расіі Б. Ельцын нядаўна накіраваў Аляксандру Рыгоравічу пасланне, у якім адзначаецца неабходнасць напаўнення рэальным зместам заключаных паміж Беларуссю і Расіяй дагаворанасцей аб стварэнні Супольніцтва. Яго думку поўнасцю падзяляе і Прэзідэнт Беларусі.

Зусім відавочна, што існуе нямала праціўнікаў беларуска-расійскай інтэграцыі. У сваіх выступленнях Прэзідэнт першапачатковую сваю місію па стварэнню Супольніцтва дзвюх дзяржаў ужо выканаў, падпісаўшы адпаведны дагавор. Цяпер задача заключаецца ў тым, каб наладжванне сувязей актыўна пайшло на ўзроўні рэгіёнаў і канкрэтных суб'ектаў гаспадарання. У гэтым напрамку ўжо робіцца вельмі многае. Адным з першых ацаніў менавіта наладжванне гаспадарчых адносінаў з Беларуссю ўрад Масквы, які ўзначальвае Юрый Міхайлавіч Лужкоў, паводле ацэнкі А. Лукашэнкі, — таленавіты гаспадарнік і палітык. Цяпер актыўна вядзецца пошук кантактаў у галіне прамысловай вытворчасці, навукі і тэхнікі.

Прэзідэнт Беларусі ў сваіх выступленнях указваў на неабходнасць больш цеснага ўзаемадзеяння з Расіяй у галіне выкарыстання вытворчых магутнасцей на прадпрыемствах-гігантах, якія з'яўляліся ў свой час лакаматывамі індустрыі былога СССР. Мы бачым, што ў кіраўніцтва Расіі існуе разуменне таго, што падтрымка беларускіх буйных вытворчасцей дасць магчымасць зэканоміць бюджэтныя сродкі на тым, што Расіі не прыйдзецца ствараць на сваёй тэрыторыі вытворчасці такія, якія ёсць ужо ў Беларусі.

**— Прэзідэнт Беларусі выступіў летам гэтага года з ініцыятывай стварэння ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе бяз'ядзернай зоны. На сённяшні дзень прапанову А. Лукашэнкі афіцыйна падтрымалі кіраўнікі пакуль толькі Расіі і Украіны. На наш погляд, чаму астатнія зацікаўленыя дзяржавы занялі пазіцыю чакання?**

— Гэта звязана з тым, што дзяржавы, якія жадаюць стаць членамі НАТО, не хочуць браць на сябе абавязацельствы па бяз'ядзернасці да вырашэння пытання аб уступленні ў Паўночнаатлантычны альянс.

Ядзерная зброя ў Еўропе не з'яўляецца фактарам, які пазітыўна ўплывае на стабілізацыю сітуацыі на кантыненце. Сёння гэта разумеюць усе.

На мой погляд, цяпер трэба весці актыўную работу па растлумачэнню сутнасці ініцыятывы беларускага Прэзідэнта, а таксама па стварэнню надзейнай дагаворна-прававой асновы для стварэння бяз'ядзернай зоны.

**— Як бы вы ацанілі дзейнасць нашага ўрада?**

— Урад выконвае праграму, якую яму задае Прэзідэнт. Разам з тым, кіраўнік дзяржавы ўсведамляе неабходнасць правядзення структурнай перабудовы Кабінета Міністраў, наладжванне больш дакладнага ўзаемадзеяння ўсіх яго службаў і падраздзяленняў.

Трэба адзначыць, што, паводле цяпер дзеючай Канстытуцыі, урад знаходзіцца пры Прэзідэнце і дастаткова абмежаваны ў сваіх паўнамоцтвах. Аляксандр Рыгоравіч мае намер змяніць такую сітуацыю і надзяліць Кабінет Міністраў большымі паўнамоцтвамі, прапанаваўшы адпаведныя артыкулы ў праект Канстытуцыі, якую мяркуецца прыняць на рэферэндуме 7 лістапада.

Цяперашні ўрад адпрацаваў больш за два гады ў крайне складаных умовах, атрымаўшы ў спадчыну развaленую эканоміку, працуючыя напаўсілы прадпрыемствы, галапіруючую інфляцыю. Тым не менш, яму ўдалося стабілізаваць сітуацыю.

Кабінет Міністраў робіць усё магчымае ў рамках дзеючага заканадаўства. Безумоўна, хацелася б, каб работа ішла яшчэ больш эфектыўна. Гэтаму пакуль перашкаджаюць існуючае дубліраванне розных дзяржаўных структур і бюракратычная валакіта. Калі народ Беларусі падтрымае ініцыятыву Прэзідэнта, то работа ўрада будзе куды больш дакладнай і дынамічнай.

**— Ужо доўгі час мусіруюцца чуткі аб магчымых кадравых перастаноўках, якія датычаць, у прыватнасці, прэм'ер-міністра і старшыні праўлення Нацбанка. Якая ваша думка наконт гэтага?**

— Улічваючы тую інфармацыю, якой я валодаю, адкажу так: проста хтосьці хоча выдаць жаданае за сапраўднае.

Па стратэгічнаму курсу, які праводзіць Прэзідэнт у вырашэнні розных пытанняў і які ўрад выконвае, ніякага разыходжання поглядаў няма. Па асобных нюансах у пытаннях тактыкі члены ўрада, прадстаўнікі кіраўніцтва Адміністрацыі Прэзідэнта, кіраўнікі галоўнага банка краіны выказваюць розныя меркаванні адносна тых ці іншых праблем. І гэта нармальна. Мы ўжо пажылі ў часы, калі заўсёды існавала адзіная думка па любых пытаннях жыцця дзяржавы і грамадства. Жыццё паказала, што паказушнае аднадушша ні да чаго добрага не прыводзіць.

У органах улады і кіраўніцтва для выпрацоўкі ўзважаных, прадуманых рашэнняў проста неабходны аналіз розных падыходаў і пунктаў гледжання, якія выказваюцца тымі ці іншымі службовымі асобамі.

Спробы пэўных палітычных сіл «сутыкнуць» Прэзідэнта з прэм'ер-міністрам або кіраўніком Нацбанка здаюцца мне дробязнымі і недарэчнымі. Прэзідэнт рэальна ацэньвае магчымасці ўказаных кіраўнікоў, як мінімум, кожны тыдзень сустракаецца з імі для грунтоўных гутарак па бягучых пытаннях эканомікі.

У заключэнне хачу падкрэсліць, што Прэзідэнт настроены на стваральную працу, маючы добра прадуманую ўласную праграму дзеянняў. Пры гэтым кіраўнік дзяржавы не настроены на канфрантацыю, а заклікаў і заклікае ўсе палітычныя сілы рэспублікі, галіны ўлады аб'яднаць свае намаганні на карысць Беларусі.

*РЭХА СКАНДАЛА*

# Жырыноўскі пацвярджае сваё аўтарства ліста Шарэцкаму, але блытаецца ў яго змесце

***Напэўна, кожны беларускі журналіст, сустрэўшыся ў верасні гэтага года з Уладзімірам Жырыноўскім, не ўстрымаўся б ад таго, каб распытаць яго аб падрабязнасцях з'яўлення скандальнага пісьма Уладзіміра Вольфавіча Сямёну Георгіевічу Шарэцкаму, Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі, і існуючых ці неіснуючых адносінах двух гэтых асоб. Таму, спаткаўшы ў Страсбургу, на сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы няўрымслівага лідэра ЛДПР, карэспандэнт «Звязды» ніяк не мог абмінуць гэтую тэму.***

***Чым больш гаварыў Жырыноўскі, тым большае здзіўленне мяне брала: як жа можна ўмець так віртуозна выдумляць, таленавіта лгаць, умомант знаходзіць адказ на пытанне, якое павінна было б паставіць у тупік. І пры гэтым мець здольнасць не тое што не пачырванець, а нават ніводным мускулам ці нейкім змяненнем інтанацыі голасу не даць падставу ўсумніцца ў шчырасці. Уладзімір Вольфавіч, як выявілася, тут сапраўдны віртуоз. Тым ён і корміцца, як вядома...***

***Аб вядомым лісце Жырыноўскага Шарэцкаму «Звязда» падрабязна пісала 18 верасня. Сямён Георгіевіч тады сумняваўся, што гэта напісаў сам Жырыноўскі, а выказаў меркаванне, што гэты ліст належыць пяру стваральнікаў неўміручых вобразаў «кітайскіх сцюардэс» і «галандскіх вутак». Як высветлілася, Жырыноўскі і не думаў адмаўляцца ад сваіх правоў на аўтарства гэтага ліста. Вось што ён расказаў журналісту «Звязды».***

**— Уладзімір Вольфавіч, той ліст які па факсу прыйшоў у сярэдзіне верасня Сямёну Шарэцкаму, вы сапраўды падпісвалі?**

— Сямён — мой сябар, Сеня, так, таму перапіска мая з ім ідзе ўжо даўно, але бывае так, што некаторыя лісты ў друк трапляюць...

**— Ці засылаюцца?**

— Так, засылаюцца кімсьці. Я вяду з ім перапіску, памылкі ў яго, памылкі ў светапоглядзе. Ведаеце, саўгаснае гэтае мысленне застаецца, не можа ён ад яго адарвацца, не можа зразумець, што ніякага фашызму на Беларусі няма і ніколі не будзе.

**— Але гэты ліст вы ўсё такі самі напісалі?**

— Вядома...Пра дублёнку там... ці зараз холадна ў вас, ён носіць яе ці не? Не холадна? Але калі будзе холадна, я яму прышлю, можа быць, боты цёплыя на футры, добрыя такія...

**— Ён і боты прасіў?**

— Так.

**— Але ўсё-такі вы самі гэты ліст пісалі ці вам хто памагаў?**

— Ды не, я пісьмы сам пішу, ну не так, я надыктоўваю іх, а там ужо іх выкладваюць на паперы, я даю такія ключавыя фразы. Каб я падпісаў кімсьці напісаны тэкст— барані мяне Бог ад гэтага. Усе кнігі сам пішу, усе пісьмы сам пішу.

**— А навошта вы пасылалі асабістыя пісьмы ў газеты, у прэзідэнцкую адміністрацыю?**

— Сам я не пасылаў, хто-небудзь з чыноўнікаў рабіў гэта, можа, хто-небудзь з іх перастараўся, я ж прасіў накіраваць ліст толькі Шарэцкаму. Перастараліся, вядома. Можа быць, яны заклалі гэты ліст на маім бланку ў рассылку іншых дакументаў, і ён аўтаматам пайшоў, у канвееры. Не паглядзелі, што гэта асабістага плана пісьмо, такое таксама бывае, бо рэдка я пішу, мне няма калі дома пісаць, я на рабоце адыктаваў і яны выпадкова, не прачытаўшы, заклалі ў агульную рассылку прэс-службы.

**— Але вось супрацоўнік вашай прэс-службы, з якім я размаўляў, казаў, што ён асабіста рассылаў гэты ліст спецыяльна ў газеты, заклікаў яго надрукаваць. Ведаеце вы такога Батагова?**

— Так, ёсць такі...

**— Таму ў мяне і ўзнікла сумненне, чаму гэта прыватнае пісьмо рассылаецца ўсім падрад?**

— Вядома, не трэба...

**— Тым больш, што гэта вельмі фамільярны ліст.**

— Вядома, напісана чыста па-сяброўску, як я там венічкам адсцёбаў, каму гэта трэба?

**— А вось там яшчэ слова «педрыла» ўжыта, гэта вы яго прыдумалі?**

— Гэта набор слоў, там ёсць у прэс-службе такія, і яны, можа быць штосьці дабаўляюць дзеля «прыгожага слоўца».

**— Дык гэта яны дабавілі гэтае слова, ці вы самі надыктавалі?**

— Я зараз не помню, трэба паглядзець па запісе відэакасеты, не, не відэа, а аўдыёкасеты... Можа, там і ёсць гэты набор слоў, я не памятаю, гэта калі ўжо было — тыдні тры таму.

**— Сямён Георгіевіч гаварыў, што ў яго з вамі ніякай дружбы не было, была толькі адна выпадковая сустрэча на прыёме ў Дзярждуме, калі вы пайшлі нават раней часу...**

— Тут ён адыходзіць, адыходзіць... Не раз мы бывалі ў лазнях разам з ім, усё гэта, «па дзевачках». Любіць ён гэта, аматар ён. Я вымушаны гэта яму, як сябру, рабіць. Любіць ён пагаварыць, патанцаваць, квасу, гарэлкі, піва папіць, папарыцца. Дарагія рэчы любіць, добра пажыць... Гэта нармальна ўсё. Колькі ён гадоў пакутаваў у саўгасе.

**— А з якога часу вы знаёмы з ім, з красавіка гэтага года, калі ён прыязджаў з візітам у Маскву?**

— Не, раней яшчэ, ён жа дэпутат Вярхоўнага Савета, цэлы год амаль. Але і да гэтага даводзілася таксама сустракацца, ён жа не з саўгаса прыехаў у дэпутаты, бываў у Мінску і Маскве. Ёсць у мяне да яго як бы адкрытасць такая. Хоць ён так знешне просты чалавек, але, можа, трапіў пад уплыў...

**— Уладзімір Вольфавіч, падчас візіту Сямёна Шарэцкага ў Маскву я быў побач з ім і не заўважыў, каб ён адлучаўся ў вашу лазню, на вашу дачу...**

— Гэта ўсё робіцца вечарам. У мяне машына са спецсігналам, прыехаў ён да мяне, гадзінупаўтары — хопіць, гэта ж не загулы.

**— А дзе ваша лазня знаходзіцца?**

(Заканчэнне на 6-й стар.)

# НЯХАЙ КОЖНЫ ЗАЙМАЕЦЦА СВАЁЙ СПРАВАЙ

Сённяшняя напружанасць і процістаянне паміж Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам дайшло, як мне здаецца, да крытычнай рысы, калі ўжо адзін бок не здольны пачуць другі, бо ніхто не хоча адступіцца і таму абодвум бакам не да эканомікі, не да жыцця працоўных.

У выносімых на рэферэндум пытаннях па дапаўненнях і змяненнях існуючай Канстытуцыі галоўная гаворка ідзе аб узмацненні правоў Прэзідэнта.

Вось я і разважаю: а ці так ужо патрэбен нам моцны Прэзідэнт? І прыходжу да высновы, што патрэбен, калі ўжо мы ў свой час вырашылі, што ў нас павінна быць прэзідэнцкая рэспубліка.

Я размяняў ужо восьмы дзесятак, маю вышэйшую адукацыю, ёсць пэўны жыццёвы вопыт, але не бяруся вызначаць, ці хапае сёння Прэзідэнту ўлады, ці не, што павінна ўбіраць у сябе паняцце «моцная прэзідэнцкая ўлада».

Уважліва прачытаўшы прапанаваныя Прэзідэнтам змены ў Канстытуцыю (я не закранаю другі варыянт, дзе ўвогуле ідзе гаворка аб скасаванні пасады Прэзідэнта), магу сцвярджаць толькі адно: пераважная большасць вяскоўцаў іх не будзе чытаць. І вось гэтая пераважная большасць прыйдзе на рэферэндум, каб вырашыць лёс Канстытуцыі, а значыць, і мой лёс, лёс сваіх і маіх дзяцей і ўнукаў. Чым жа яны пры гэтым будуць кіравацца, каб сказаць сваё «за» ці «супраць»?

Таму лічу, што вельмі рызыкоўна ў такіх абставінах увогуле праводзіць рэферэндум.

Калі ўносяцца змены ў Правілы дарожнага руху, дык яны не выносяцца на ўсенароднае абмеркаванне і галасаванне. Іх распрацоўваюць спецыялісты, карыстаючыся практычным вопытам сваім і замежным. Уяўляю сабе, за якія б правілы прагаласавалі вадзіцелі — аматары моцных напояў, калі б ад іх залежаў лёс гэтых правілаў. А гэта ж Канстытуцыя, а не Правілы дарожнага руху!

Яшчэ раз хачу падкрэсліць: я не супраць моцнай прэзідэнцкай улады. Але мяне насцярожвае ў актыўнай агітацыйнай рабоце, пачатай сёння выканаўчай уладай, адзін момант. Вядома, што сёння існуе і процілеглая прэзідэнцкаму боку думка — якой быць прэзідэнцкай уладзе, якая роля пры гэтым павінна адводзіцца Вярхоўнаму Савету і Канстытуцыйнаму суду. І прытрымліваюцца гэтай думкі такія ж высокаадукаваныя і вядомыя навукоўцы, як і з атачэння Прэзідэнта. Але ні на тэлебачанні, ні на радыё, ні ў афіцыйным друку яны не сказалі ані слова. Гаворыць толькі адзін бок — прэзідэнцкі. Чаму? Як жа можна ў такіх абставінах простаму чалавеку ўзважыць усе «за» і «супраць» як аднаго, так і другога варыянта прапаноўваемых змен у Канстытуцыю?

І апошняе. Вядома, што ў свой час пытанне аб увядзенні пасады Прэзідэнта вырашалася «пад Кебіча». А на выбарах, што ні рабілі ўладныя структуры, як ні стараліся тэлебачанне і радыё, а перамог іншы кандыдат — Лукашэнка.

Дык ці варта сёння ў такі складаны для дзяржавы час рызыкаваць, выносячы на рэферэндум пытанне аб прадастаўленні, па сутнасці, неабмежаваных паўнамоцтваў Прэзідэнту?

А што калі, крый Бог, на наступных выбарах адбудзецца тое ж, што і на першых, і да ўлады прыйдзе чалавек, якому такіх неабмежаваных паўнамоцтваў ні ў якім разе нельга даваць?

Што, тады зноў рабіць рэферэндум і выносіць прапанову аб абмежаванні паўнамоцтваў Прэзідэнта? Вельмі сумняваюся, што той гіпатэтычны прэзідэнт дазволіць правесці такі рэферэндум. І што тады будзе з дзяржавай, з намі?

Вось і задумаешся сёння, што рабіць, як галасаваць на рэферэндуме? Таму я за тэрміновае стварэнне Пагаджальнай камісіі на парытэтных пачатках. Няхай гэтая аўтарытэтная камісія прафесіяналаў не спяшаючыся разбярэцца з усімі спрэчнымі пытаннямі, з усімі прапановамі, а мы — звычайныя выбаршчыкі — будзем займацца кожны сваёй справай, у якой нешта разумеем, каб не на словах, а на справе зрабіць хаця б маленькі крок у бок паляпшэння эканамічнага стану нашай дзяржавы.

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ,**
**інвалід**
**Вялікай Айчыннай вайны II гр.**
г. Слаўгарад.

# МЫ ПАДМАНУЛІСЯ...

У нашай краіне зараз вельмі складаная палітычная сітуацыя. У спакойны час мы мала ўдзяляем увагі палітыцы, але зараз наступіў крызіс і народу неабходна прыняць удзел у вырашэнні асобных пытанняў.

Калі мы выбіралі Вярхоўны Савет, колькі было партый, і кожная прапаноўвала сваю праграму. Усе абяцалі служыць толькі інтарэсам народа. Нам нават складана было зрабіць выбар. А што мы бачым зараз? Як толькі яны дарваліся да ўлады, пра нас адразу ж забылі. Усе аб'ядналіся з агульнай мэтай — зняць Прэзідэнта. Ім ужо мала ўлады, якую яны маюць. Яны сталі, як багі, недатыкальныя, іх нельга ні зняць, ні адклікаць, ні пакараць.

Наш Шарэцкі быў такі добры, перажываў за вёску, і сяляне падтрымалі яго. А зараз ён, як «кардынал Рышыльё». Вядома, Шарэцкаму далёка да таго, але ён таксама пачаў плесці інтрыгі ў сваім «палацы».

Хачу сказаць, што ў новай Канстытуцыі павінен застацца артыкул аб роспуску Вярхоўнага Савета. Самі дэпутаты ніколі тагога рашэння не прымуць. Гэта павінны зрабіць мы. І менавіта на гэтым рэферэндуме. Толькі народ павінен вырашаць лёс і Прэзідэнта, і дэпутатаў.

**Н. ПАЛІЎКІНА.**
*г. Полацк.*

*САЦЫЯЛОГІЯ*

# ПАЛАЧАНЕ ЯШЧЭ ВЫРАШАЮЦЬ — УДЗЕЛЬНІЧАЦЬ ЦІ НЕ Ў РЭФЕРЭНДУМЕ

За ўдзел у лістападаўскім рэферэндуме выказаліся 54,1 працэнта жыхароў Наваполацка і 47,5 працэнта — Полацка; адпаведна 15,3 працэнта і 14,4 працэнта адназначна вырашылі не ўдзельнічаць, а астатнія (30,6 працэнта і 38,1 працэнта) яшчэ разважаюць на гэты конт. Цікава падкрэсліць, што са зместам Канстытуцыі, апублікаванай 31 жніўня ў рэспубліканскім друку, на момант правядзення даследавання азнаёміліся толькі 32,9 працэнта новапалачан і 22,7 палачан. Ідэю правядзення 19 кастрычніка 1996 года Усебеларускага народнага сходу падзяляюць, адпаведна, 51,7 працэнта і 50,4 працэнта рэспандэнтаў. А вось як размеркаваліся адказы тых, хто будзе ўдзельнічаць у рэферэндуме, на прапануемыя пытанні:

***1. Вы згодны перанесці Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень рэспублікі) на 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне?*** *(У працэнтах.)*

| | Згодзен | Не згодзен |
|---|---|---|
| *Полацк* | 70,9 | 29,1 |
| *Наваполацк* | 69,8 | 30,2 |

***2. Вы за прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам?*** *(У працэнтах.)*

| | Згодзен | Не згодзен |
|---|---|---|
| *Полацк* | 72,2 | 27,8 |
| *Наваполацк* | 67,2 | 32,8 |

***3. Ці выступаеце вы за свабодную, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі?*** *(У працэнтах.)*

| | Згодзен | Не згодзен |
|---|---|---|
| Полацк | 29,2 | 70,8 |
| Наваполацк | 36,5 | 63,5 |

***4. Ці падтрымліваеце вы адмену смяротнай кары ў Рэспубліцы Беларусь?*** *(У працэнтах.)*

| | Згодзен | Не згодзен |
|---|---|---|
| *Полацк* | 22,1 | 77,9 |
| *Наваполацк* | 25,1 | 74,9 |

***5. Вы за прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь?*** *(У працэнтах.)*

| | Згодзен | Не згодзен |
|---|---|---|
| *Полацк* | 17,1 | 82,9 |
| *Наваполацк* | 23,2 | 76,8 |

***6. Ці выступаеце вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі?*** *(У працэнтах.)*

| | Згодзен | Не згодзен |
|---|---|---|
| *Полацк* | 91,0 | 9,0 |
| *Наваполацк* | 87,7 | 12,3 |

***7. Ці згодны вы, што фінансаванне ўсіх галін улады павінна ажыццяўляцца галосна і толькі з дзяржаўнага бюджэту?*** *(У працэнтах.)*

| | Згодзен | Не згодзен |
|---|---|---|
| *Полацк* | 87,1 | 12,9 |
| *Наваполацк* | 88,5 | 11,5 |

Як бачым, тэндэнцыі вызначаны. Але да рэферэндуму яшчэ больш як месяц. У якой ступені будзе выкарыстаны гэты час — пакажа сам рэферэндум.

**В. ШАЙКОЎ,**
**загадчык кафедры гісторыі і сацыялогіі Полацкага дзяржаўнага універсітэта.**

# «КАНСТЫТУЦЫЯ — ГЭТА СУР'ЁЗНА!»

Як вядома, Прэзідэнтам нашай дзяржавы вынесена на ўсенароднае абмеркаванне новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. І цяпер ад нас, грамадзян, залежыць, ці ўступіць у законную сілу прапануемая Канстытуцыя. Каб адказаць на гэта архіважнае пытанне і прыняць правільнае рашэнне, неабходна, безумоўна, прааналізаваць прапануемы праект з мэтай высвятлення, што новага дасць нам новая рэдакцыя Канстытуцыі ў сэнсе нашых правоў, свабод і дэмакратыі наогул, нашага матэрыяльнага дабрабыту, усталявання грамадзянскай згоды і далейшага працвітання Рэспублікі Беларусь.

Параўноўваючы новую рэдакцыю і цяпер дзеючую Канстытуцыю, неабходна адзначыць, што змяненняў унесена параўнальна нямнога, аднак змяненні гэтыя носяць прынцыпова важны характар.

Возьмем раздзел IV, гл. 4 «Парламент — нацыянальны сход». Прапануецца парламент падзяліць на дзве палаты — палату прадстаўнікоў і сенат, у колькасці 110 і 63 чалавек адпаведна. Ідэя, у прынцыпе, зразумелая, сенат павінен будзе з'яўляцца, з аднаго боку своеасаблівым фільтрам у працэсе прыняцця законаў, і чымсьці накшталт пагаджальнай камісіі паміж выканаўчай і заканадаўчай уладай — з другога боку. Аднак чаму ў палаце прадстаўнікоў 110 чалавек, чаму б не прадугледзець квоты для палітычных партый, хоць бы 50 месцаў? Мы ўвесь час скардзімся на адсутнасць палітыкаў-прафесіяналаў. А адкуль ім узяцца, калі дэпутаты выбіраюцца толькі напрамую з акруг.

Далей, у сенат прапануецца выбіраць па дзевяць сенатараў ад кожнай вобласці і горада Мінска, у тым ліку 1/3 назначаецца непасрэдна Прэзідэнтам краіны. З чым наўрад ці можна пагадзіцца. Не зусім зразумела, чаму ад горада Мінска такая ж колькасць сенатараў, як і ад абласцей. Калі па колькасці насельніцтва гэта параўнальныя велічыні, то ці магчыма прыраўноўваць палітычны і прававы статус горада (няхай нават і сталіцы) да статусу вобласці? Нарэшце, як выбіраць 6 (шэсць) сенатараў ад кожнай вобласці на пасяджэннях дэпутатаў мясцовых Саветаў базавага ўзроўню?

Выклікае вялікія пытанні і арт. 94: «Паўнамоцтвы палаты прадстаўнікоў могуць быць датэрмінова спынены пры адмове ў даверы ўраду, выказванні вотуму недаверу ўраду, або двухразовай адмове ў дачы згоды на назначэнне прэм'ер-міністра...» З апошнім пунктам усё зразумела, але чаму ў выпадку выказвання вотуму недаверу ўраду ідзе ў адстаўку не сам урад, а палата прадстаўнікоў? Безумоўна, гэты артыкул патрабуе далейшай прававой дапрацоўкі. Пэўнае неўразуменне і занепакоенасць выклікае разд. 3 «Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь».

Можна зразумець імкненне Прэзідэнта неяк ураўнаважыць свае правы пры выбранні Канстытуцыйнага суда і Цэнтральнай выбарчай камісіі (з агаворкай, што старшыня Канстытуцыйнага суда будзе назначацца (выбірацца) самім Канстытуцыйным судом, а не Прэзідэнтам), разам з тым выклікаюць пытанні пункты 9, 10 арт. 84, дзе Прэзідэнт краіны «вызваляе ад пасады старшыню Вярхоўнага суда, Генеральнага пракурора і членаў праўлення Нацыянальнага банка па падставах, прадугледжаных у законе з паведамленнем сената», (юрыдычна правільным было б — са згоды сената), назначае на пасаду і вызваляе ад пасады старшыню Камітэта дзяржаўнага кантролю», — ні з кім не ўзгадняючы і нікога не ставячы ў вядомасць. Прытым на гэты орган ускладаецца «...дзяржаўны кантроль за выкананнем рэспубліканскага бюджэту, выкарыстаннем дзяржаўнай уласнасці, выкананнем актаў Прэзідэнта, Парламента, Урада і г. д. ...»

Відавочнае імкненне Прэзідэнта заміняць службу кантролю, кішэнным Камітэтам дзяржаўнага кантролю. Нарэшце, кантроль за выкананнем рэспубліканскага бюджэту, згодна з дзеючай Канстытуцыяй, ажыццяўляе Кантрольная палата Вярхоўнага Савета, і правільнасць такога падыходу пацвярджае і сусветная практыка.

Верагодна, больш правільным было б падумаць аб вяртанні да Камітэта народнага кантролю, які выбіраўся б насельніцтвам і мясцовымі Саветамі дэпутатаў на месцах і які падпарадкоўваўся б толькі закону.

Нарэшце, больш за ўсё пытанняў выклікае арт. 88, які можна коратка назваць «Непатапляльнасць Прэзідэнта». Згодна з гэтым артыкулам, Прэзідэнт можа быць датэрмінова вызвалены ад пасады: а) пры стойкай няздольнасці па стану здароўя ажыццяўляць свае абавязкі; б) дзяржаўнай здрадзе; в) іншым цяжкім злачынстве. «Прэзідэнт лічыцца знятым з пасады, калі за гэта рашэнне прагаласавала не менш як 3/4 ад поўнага саставу сената, а таксама не менш як 2/3 ад поўнага саставу палаты прадстаўнікоў». Па-першае, што такое 3/4 ад поўнага саставу сената, пры ўмове, што 1/3 назначаецца самім Прэзідэнтам? Практычна, калі палата прадстаўнікоў і прагаласуе «за» вызваленне ад пасады Прэзідэнта, то зрабіць гэта сенату амаль немагчыма.

Па-другое, што такое «...стойкая няздольнасць па стану здароўя ажыццяўляць свае абавязкі» або «...іншае цяжкае злачынства». А калі не цяжкае злачынства, а калі амаральныя паводзіны або парушэнне Канстытуцыі?

Зусім відавочна, што рэдакцыя арт. 88 прапануемай Канстытуцыі ні ў якія прававыя вароты не лезе і з'яўляецца крокам назад у развіцці канстытуцыйнага ладу нашай дзяржавы.

Не ўдаючыся ў далейшыя падрабязнасці аналізу новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, на мой погляд, неабходна без усякага шуму і крыку зрабіць адназначную выснову: прапануемая рэдакцыя Асноўнага закона нашай дзяржавы — гэта добрая падстава для роздуму і заканадаўчай работы для прадстаўнікоў улады (Вярхоўнага Савета), і не больш таго. Прымаць гэты архіважны дакумент без грунтоўнай дапрацоўкі ніяк нельга.

**В. ГРЫНКЕВІЧ,**
**дэпутат Браслаўскага раённага Савета дэпутатаў.**

*ПОГЛЯД*

*Святлана ДАБРЫЯНІК*

# «Журналіст павінен быць у апазіцыі да ўсіх...»

***Ва ўсіх на слыху тэлежурналісты Інга Хрушчова і Святлана Дабрыянік. «Звязда» не збіраецца даваць ацэнку іх працы па асвятленню на тэлебачанні дзейнасці беларускага парламента. Усе рэпартажы, усе каментарыі добра вядомы шматмільённай аўдыторыі тэлегледачоў. Падставай жа для гутаркі са Святланай Дабрыянік стала зусім нядаўняя сітуацыя, калі Вярхоўны Савет прыняў нечаканае для ўсіх рашэнне аб пазбаўленні акрэдытацыі журналістаў Белтэлерадыёкампаніі.***

***А што ж думаюць, як ацэньваюць сітуацыю самі тэлежурналісты? Да ўвагі — пункт гледжання парламенцкага аглядальніка АТН Святланы ДАБРЫЯНІК.***

**— Святлана, перш-наперш хацелася б запытацца ў вас пра адну агульную, але вельмі важную рэч. Асвятляючы дзейнасць розных галін улады, якую ўсё ж пазіцыю, на ваш погляд, павінен займаць журналіст, на ваш погляд?**

— Я заўсёды была перакананая ў тым, што журналіст увогуле павінен быць у апазіцыі да ўсіх. Удакладню — у разумнай апазіцыі, якая была б на карысць усім. Журналістыка — не служка ўлады і тых, хто цягнецца да яе. Мы павінны крытыкаваць як адзін бок, так і другі зыходзячы з таго, што ні адзін з іх не можа быць ідэальным.

Што датычыцца мяне, то я заўсёды прытрымліваюся такога пункту гледжання. І справа тут не ў палітыцы. Хаця менавіта з-за яе тэлебачанне лічаць кішэнным...

**— Вы не згодны з гэтым?**

— Абсалютна не згодна. Але тут вельмі складанае пытанне. Разумееце, у часы Кебіча ўлада пазнала сапраўдны смак, ацаніла, што ж такое тэлебачанне, як ім можна кіраваць. Сказанае па тэлебачанні слова — гэта ўжо нешта зробленае. Магутны ўплыў на псіхалогію, учынкі людзей.

Але наша задача — брыкацца, паказваць нораў, паводзіць сябе самастойна.

**— І гэта ўдаецца?**

— Працэнтаў на семдзесят удаецца. Што датычыць Вярхоўнага Савета, то многія крыўды дэпутатаў — дарэмныя. Мы паказваем іх такімі, якія яны ёсць на самай справе. Да таго ж робім гэта з-за цікавасці гледачоў — акцэнт на тое, што кідаецца ў вочы. Пасля «пакрыўджаныя» дэпутаты ў кожным кадры шукаюць палітыку, зададзенасць пэўных палітычных сіл.

**— Святлана, уявіце сябе калі не ў ролі дэпутатаў-тэлегерояў, дык хаця б у ролі тэлегледача. Наколькі ж тэндэнцыйнымі выглядаюць рэпартажы спадарыні Дабрыянік?**

— Ведаеце, узяўшыся за асвятленне дзейнасці Вярхоўнага Савета, я ўзяла за правіла — не імкнуцца сапсаваць адносіны з героямі маіх рэпартажаў. Часам хацелася б быць больш вастрэйшай, але сапраўды стрымлівала сябе, баючыся пакрыўдзіць тых людзей, з кім мне трэба будзе заўтра ці паслязаўтра сустракацца. Спрабавала будаваць з многімі парламентарыямі нармальныя адносіны. І ў асноўным гэта ўдавалася.

**— Вы адчувалі сябе сваім чалавекам яшчэ і ў парламенце?**

— Сваім чалавекам я ніколі не была ні ў Адміністрацыі Прэзідэнта, ні ў парламенце. І менавіта таму не лічу сябе тэндэнцыйнай. Але трэба разумець, скажам так, законы тэлежурналістыкі. Калі карэспандэнт можа зрабіць акцэнт на цікавым, але дробным эпізодзе, улічваючы інтарэсы гледачоў, напрыклад, калі дэпутаты сварацца, рвуць паперкі і гэтак далей, удзяліўшы менш увагі руціннай і малацікавай, але, безумоўна, важнай працы. Таму што ў тэлежурналістыцы ёсць такое паняцце, як адказнасць. І так працуе тэлебачанне ва ўсім свеце.

З другога боку, вяртаючыся да пачатку размовы пра журналіста і палітыку, можна звярнуць увагу і на ўласныя інтарэсы абсалютнай большасці дэпутатаў. Колькі разоў яны падыходзілі да апаратараў і прасілі: здымі мяне, няхай, маўляў, родныя і выбаршчыкі ўбачаць, што я жывы, працую на іх карысць. Словам, жаданне «засвяціцца» ніколі не пакідала народных абраннікаў. Што па-чалавечы зразумела. Але можаце ўявіць, якую рэакцыю выклікалі такія просьбы ў нашых тэхнічных работнікаў.

Калі ж вярнуцца да праблемы «тэндэнцыйнасці», «кішэннасці», то, між іншым, Шушкевіч, Карпенка, Новікаў кожны дзень у нашых кадрах. Мы падаём адзін да аднаго выступленні Ганчара. І нічога — і ніхто не памёр...

**— З боку выканаўчай улады таксама...**

— Так, ва ўсякім разе, ніхто з высокага начальства не зрабіў мне заўвагі. Хаця і асаблівай падзякі таксама не было.

**— Святлана, часта розныя бакі апелююць да плюралізму. Маўляў, каб захаваць ісціну, сродкі масавай інфармацыі павінны даваць слова палярным бакам. Ці не адчуваеце вы, што тэлебачанне працуе выключна на адну галіну ўлады?**

— Па зразумелых прычынах нас уцягваюць у палітыку. Але ўлічваючы нават гэтыя няпростыя абставіны, я б так катэгарычна не сцвярджала. Хаця я выдатна разумею, што журналіст можа быць тэндэнцыйным нават тады, калі працуе з аднымі і тымі ж субяседнікамі.

**— І ўсё ж вы працуеце якраз такім чынам... Але хіба вы не разумееце, што ўсё роўна парламентарыі знойдуць трыбуну? А выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета можа быць надрукавана і ў «Народнай волі», напрыклад.**

— Па-першае, гэтыя пытанні не да мяне. Што датычыцца Шарэцкага, то мы запрашалі Сямёна Георгіевіча. І я падыходзіла, і Зімоўскі запрашаў у «Рэзананс». Але Старшыня Вярхоўнага Савета не ідзе. А яго бліжэйшага паплечніка Мечыслава Гіруця наша здымачная група чакала ля ўваходу ў Дом урада хвілін 40, але так і не дачакалася. Між іншым, згода на інтэрв'ю была дасягнута.

Няцяжка зразумець, што гэта і ёсць палітыка. Адмаўляць у інтэрв'ю, а потым гаварыць аб інфармацыйнай блакадзе.

**— А можа, проста боязь, што вы будзеце «рэзаць», абмяжоўваць выступленне?**

— Той, хто сур'ёзна займаецца палітыкай, гэтага не баіцца. А што датычыцца творчых пытанняў — як падаць матэрыял — то гэта наша права. Мы «рэжам» усіх. Нават кіруючых асоб з Адміністрацыі Прэзідэнта. Гэтае ж правіла распаўсюджваецца і на самога Аляксандра Рыгоравіча. Хай не крыўдуе...

**— Я меў на ўвазе цэнзурнае, скажам так, абмежаванне, «рэзанне»...**

— Ведаеце, мы — прафесіяналы. І да таго ж служачыя дзяржаўнай установы, дзе ёсць свае правілы і нормы. І мы іх проста павінны выконваць. А справа заканадаўцаў — вызначыць характар адносінаў у сферы абмежаванняў, цэнзуры. Але хацелася б заўважыць і наступнае: вялікіх абмежаванняў, дыктату з боку кіраўніцтва АТН — няма.

Дарэчы, асабіста мне падаецца, што адмаўленне нам у акрэдытацыі — гэта свайго роду працяг барацьбы за прадастаўленне прамых трансляцый з Авальнай залы. А каму гэта трэба — пастаянная трансляцыя? Гэта анахранізм. Усе краіны свету адмовіліся ад таго, чаго патрабуюць беларускія дэпутаты.

Уявіце: у лепшы эфірны час, калі глядач чакае фільмаў і музычных праграм, ён бачыць палітычнае шоу — гэта ў лепшым выпадку. Ці руціннае паартыкульнае абмеркаванне якога-небудзь закона. Трэба ж шкадаваць людзей!

Да таго ж эфірны час каштуе немалых грошай. А іх, як вы ведаеце, у бюджэце няма...

**— Дарэчы, ці застанецца ў вас асабістая крыўда на парламент за пазбаўленне акрэдытацыі? Магчыма, будзеце займацца «тэлепомстай»?**

— Не, што вы. Крыўда? Гэта не ўласціва мне. Ды і ёсць жа нейкія прафесіянальныя законы. Журналіст павінен быць гатовым да любой рэакцыі на яго выступленні. Апазіцыя да ўсіх — пра якую я ўжо казала — заўсёды дорага каштуе.

У большай ступені тут павінен крыўдаваць на сябе парламент. Заканадаўчая ўлада тут прайграе. І гэта адназначна.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

ІЗГОІ

# ЧАЛАВЕК БЕЗ ПАШПАРТА

## Рэспубліка Беларусь супраць Луферава В. Я.

Як гаворыцца, шмат чаго пабачыў і шмат каго сустракаў за 12 гадоў працы ў журналістыцы. Такое — сустракаю ўпершыню. Адзін матэрыял так і назваў — «Унікум», здавалася, што апісаная там гісторыя — унікальная, такой больш не было і не будзе. Я недаацаніў родную дзяржаву і бяру свае словы назад.

Мая дзяржава здольная і не на такое. Прыклад Валянціна Луферава пацвярджае гэта на першы погляд спрэчнае сцвярджэнне. Валянцін Якаўлевіч дабіваецца аднаўлення на рабоце з 1985 года. За гэты час страчана сям'я і кватэра, пашпарт Валянцін Якаўлевіч сам парваў у кабінеце аднаго чыноўніка ад адчаю. Луферава, калі верыць толькі паперам, увогуле не існуе. Як кажуць, у спісах не значыцца. Чалавек без пашпарта, жылля і маёмасці. Яго пазбавілі ўсяго, чаго можна пазбавіць фізічна.

**1**

Жыццё Луферава, між іншым, складвалася даволі прывычна для звычайнага чыноўніка абласнога маштабу, са здольнасцямі і энергічнага.

У 1963 годзе ён быў прыняты ў Магілёўскі аблвыканком старшым эканамістам бюджэтнага аддзела. Працаваў, набіраўся вопыту, начальства яго цаніла і не абыходзіла ўвагай. У 1974 годзе Валянціна Якаўлевіча павысілі: стаў начальнікам аддзела штатаў фінаддзела аблвыканкома. Словам, усё ішло як мае быць. Да 27 лістапада 1985 года, калі загадам міністра фінансаў Луфераў быў вызвалены ад займаемай пасады. З «воўчай» фармулёўкай: за ажыццяўленне ўчынкаў, несумяшчальных са службовым становішчам. Хто сутыкаўся, той ведае — з такім запісам у працоўнай кніжцы ніхто з вамі гаварыць не стане.

Па роду сваёй работы Валянцін Якаўлевіч быў знаёмы з кіраўнікамі ўсіх прадпрыемстваў Магілёва. Пасля звальнення ён шукаў работу — яго нідзе не прынялі.

Афіцыйная прычына звальнення — злоўжыванне службовым становішчам. Нібыта Луфераў купіў дзве машыны, а пры будаўніцтве двух гаражоў груба адступіў ад праекта. Апрача таго, прадставіў у абласны аддзел сацзабеспячэння падложныя дакументы, у выніку чаго стаў уладальнікам «Запарожца». Нягледзячы на дубовую канцылярскую мову, вам ясна — па тым часе парушэнне даволі сур'ёзнае. Тым больш цікава, што яго не было ўвогуле. Часу прайшло шмат, разбірацца ўжо цяжкавата, але вось выпіска з адказу Пракуратуры БССР у ЦК КПСС: «...Дзеянні Луферава В. Я. па набыццю ім і яго жонкаю па аднаму аўтамабілю, якія былі ва ўжыванні, не звязаны з яго службовым становішчам... З работы ён звольнены няправільна...» (28.03.86 г. № 12/162-86).

Тады было нормай: калі ты начальнік, то табе дазвалялася крыху больш, чым астатнім (цяпер таксама). Пры ўзнікненні гучнай справы людзі дасведчаныя ведалі, што нехта скраў занадта многа, не па чыну. Альбо больш дробны начальнік не дагадзіў больш буйному. Апошняе датычыць якраз Луферава.

Ягоны начальнік прыняў на ўзбраенне даволі эфектыўную тактыку. Ён, напрыклад, запускаў рэвізораў на патрэбнае прадпрыемства, скажам, на абласны вузел сувязі (які займаецца тэлефанізацыяй), ці аблсельгастэхніку (дзе ёсць запчасткі і паліва). Любая камісія ў любым месцы можа «накапаць» чаго хочаш.

Натуральна, фінансісты «рылі зямлю носам» і знаходзілі кампрамат. Потым адпаведных начальнікаў выклікаў начальнік Луферава і яго таксама. І гаварыў яму: «Вось, Валянцін Якаўлевіч, трэба б падысці з разуменнем...» У сэнсе, матэрыялы праверкі ціха «пахаваць» і забыць.

Луфераў па роду дзейнасці павінен быў арганізоўваць такія рэвізіі і ў нейкі момант яму гэта надакучыла. Тым больш, супрацоўнікі пачалі задаваць пытанні кшталту «мы шукаем, шукаем, а толку ніякага». Валянцін Якаўлевіч з гэтым пагадзіўся і ўсё прама выказаў начальніку. Тут вось і з'явілася справа аб двух машынах. Лагічна. Было — не было, а Луферава хуценька звольнілі.

Між тым, міліцыя праверыла факты. Аперупаўнаважаны АБКСУ УВД Нізаўцоў дае заключэнне: па матэрыялах праверкі ў адносінах Луферава В. Я. ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адмовіць. Адпаведную паперу накіравалі ў аблвыканком 30 кастрычніка, а загад аб звальненні Луферава ўбачыў свет 27 лістапада. Іншымі словамі, лёс Валянціна Якаўлевіча быў вырашаны загадзя і зусім не органамі.

Але гісторыя на гэтым не заканчваецца. Яна, можна сказаць, толькі-толькі пачынаецца...

**2**

Што было далей? Суцэльная змрочная руціна... Суды, пракуратуры, пракуратуры, суды, — кілаграмы спісанай паперы, карацей кажучы, нуда. Але самае цікавае: Генеральная пракуратура яшчэ ў 1986 годзе пацвердзіла, што саставу злачынства ў дзеяннях Луферава не знойдзена. Тым самым пацвердзіўшы незаконнасць яго звальнення. Пракуратура нават сачыніла пісьмо ў Мінфін з прапановай (! — а чаму не патрабаваннем?) аднавіць Валянціна Якаўлевіча на рабоце. Але пісьмо было досыць нясмелым. Мінфін не адрэагаваў. Магчыма, пракуратура была дрэнна інфармавана, ім там падказалі і яна потым прызнала звальненне законным, правільным.

Гэты анекдот мае працяг. У 1995 годзе в. а. Генпракурора В. Капітан зноў-такі прызнае звальненне незаконным. Але так прызнае: меры па аднаўленню не прымаюцца па прычыне заканчэння тэрміну разгляду скаргі...

Гэта ўсё, вядома, сумна. Але і смешна. Прызналі — не прызналі, прызналі — не прызналі... Гульня такая. Усё залежыць ад чарговага тэлефоннага званка, так ці што? Ад палітычнай сітуацыі?

Адзін даволі высокапастаўлены работнік пракуратуры ў прысутнасці начальнікаў аддзелаў паабяцаў Луфераву: «Я вас фізічна знішчу...» Ён жа раіў Валянціну Якаўлевічу ўвогуле з'ехаць з Беларусі. Праўда, не сказаў куды.

Дарэчы, так званы тэрмін разгляду скаргаў быў заканадаўча аформлены ў КЗаПе (арт. 215) у 1988 годзе, а Луферава звольнілі ў 1985-м. Пры тым, што закон зваротнай сілы не мае. Няўжо работнікі пракуратуры гэтага не ведалі? Мякка кажучы, гэта дазваляе сумнявацца ў іх кампетэнтнасці.

Безумоўна, Валянцін Якаўлевіч здаецца крыху наіўным чалавекам. Павінен жа разумець: хто не з намі, той супраць нас.

**3**

Жыццё, аднак, ішло сваім парадкам. Апрача барацьбы за справядлівасць Валянціну Якаўлевічу трэба было элементарна карміць сям'ю, бо ён так нідзе і не працаваў.

Луфераў — інвалід з дзяцінства, але мужчына энергічны і моцны. Як фізічна, так і духоўна. Ды і тое: вытрымаць 11-гадовую эпапею — гэта ж які характар трэба мець?! Адным словам, Валянцін Якаўлевіч прымае рашэнне пераехаць у вёску, канкрэтна — у Слаўгарадскі раён, на радзіму. Там жыла яго маці, а сын збіраўся яе даглядаць. Адначасова ж займацца сельскай гаспадаркай.

Гэта было ў 1987 годзе, калі многія вёскі раёна ўжо выселілі з-за высокай забруджанасці глебы радыенуклідамі. Луфераў разважаў так: калі дзяржава не жадае мяне аднаўляць на рабоце, калі звольнілі мяне незаконна, калі іншых прыбыткаў, апрача невялікай інвалідскай пенсіі ў мяне няма, а есці хочацца, то я займаю чужы дом, жыву там, вырошчваю агародніну і садавіну і тым забяспечваю існаванне сабе і сваёй сям'і. Ход гэтых разважанняў мне вельмі падабаецца. Чалавека пазбавілі магчымасці нармальна жыць, а ён плюнуў на ўсё — і жыве.

Поспехі на ніве сельскай гаспадаркі Луферава можна параўнаць з яго поспехамі ў галіне фінансаў. Коратка кажучы, у яго ўсё расло. Валянцін Якаўлевіч — чалавек ва ўсіх адносінах вопытны. На кожны чых у яго ёсць адпаведная даведка.

У 1986 годзе Луфераў аформіў фіктыўны развод з жонкаю, у 1988 годзе памерла яго маці, а свой домік перад тым адпісала дачцэ. Вось яго і заняў, са згоды сястры, Валянцін Якаўлевіч. Кожную восень ён вёз дадому 6-7 мяхоў бульбы, 5-6 скрынак яблык, ягады, грыбы. Вёз і грошы. Бывала, перадаваў жонцы і па 1000 рублёў. Адкулъ грошы?

Справа ў тым, што наш герой, як бы гэта сказаць, пайшоў на некаторае парушэнне закона. Пачаў гнаць самагонку і прадаваць. Дрэнна, вядома. Непрыгожа. Я не збіраюся апраўдваць. Валянцін Якаўлевіч сам апраўдаецца: як гаворыцца, які час — такія і песні. Вы мяне — так, а я — гэтак. Прашу проста заўважыць: размова ішла аб простым фізічным выжыванні. З ім не асабліва, шчыра кажучы, цырымоніліся, ён адказваў тым жа. А згадзіцеся, што калі паставіць чалавека ў невыносныя ўмовы, то, верагодна, можна зразумець, а часам і апраўдаць некаторыя яго ўчынкі, якія нельга апраўдаць ва ўмовах іншых, нармальных.

Што цікава, Валянцін Якаўлевіч напісаў заяву ў міліцыю з просьбай дазволіць вытворчасць і продаж «напою». Падкрэсліў: паколькі ўлады пазбавілі мяне сродкаў для існавання. Гэта яго «фірменны» стыль.

Тым часам, бяда адна, як вядома, не ходзіць. Яшчэ ў 1985 годзе Луфераў трапіў у аварыю — сутыкнуўся з матацыклістам. Матацыкл разбіўся ўшчэнт, пасажыр загінуў. Валянціну Якаўлевічу пагражаў 3-гадовы тэрмін. Турмы яму ўдалося пазбегнуць, але, як я зразумеў, прыйшлося выплачваць салідную кампенсацыю. Адсюль — ад'езд у вёску і пераход на падножны корм. А сваю невіноўнасць у аварыі ён можа даказаць вельмі падрабязна і аргументавана.

Каб цяжар кампенсацыі не лёг на сям'ю, Луфераў і развод аформіў. Што з яго боку было неасцярожным крокам...

**4**

Уласна, і аварыя, і развод крыху не ўкладваюцца ў генеральную лінію гэтага матэрыялу. Але без іх не зразумееш далейшых падзей. Іх сутнасць можна выкласці ў некалькіх словах: Валянцін Якаўлевіч Луфераў стаў самым натуральным бамжом, чалавекам без кватэры і прапіскі...

Можа б і не варта было аб гэтым пісаць, але, відаць, трэба: аднойчы Луфераў знайшоў на сямейным ложку пабочнага мужчыну. Канфлікты з-за беспрацоўя Валянціна Якаўлевіча здараліся і раней. А гэты проста завяршыў працэс.

Як аказалася, «бой фрэнд» жонкі працаваў у праваахоўных органах. Далейшае можна прадказаць: суд і пазбаўленне Луферава права на жылую плошчу. Жонку, вядома, зразумець можна — сумеснае жыццё пасля такога ператвараецца ў катаргу. Але — значыць, выгнаць мужа на вуліцу? Значыць, так. Суд, між тым, не меў рацыі. Хоць і быў хуткім. Гэта лёгка даказваецца.

Напрыклад, суд улічвае заяву жонкі аб тым, што муж пяць гадоў у кватэры не жыве. Але не звяртае ўвагі на тое, што Луфераў выязджаў у Слаўгарад для догляду сваёй старой маці. Яна памерла і пакінула завяшчанне на маёмасць сваёй дачцэ. Значыць, за Луферавым права на жыллё захоўвалася.

Ён рэгулярна выязджаў у Слаўгарад пасля смерці маці, але лічыць гэта зменай месца жыхарства нельга. Ну, і гэтак далей. Вынік вядомы. Тут мне карціць працытаваць Л. М. Талстога: «Жаночае пытанне! Як жа не жаночае пытанне! Толькі не ў тым, каб жанчыны сталі кіраваць жыццём, а ў тым, каб яны перасталі яго губіць...» Мудра, нічога не скажаш...

Такім чынам, парадокс у чыстым, закончаным выглядзе. Чалавек абсалютна ні ў чым не вінаваты — 11 гадоў ён не можа нічога нікому даказаць. Пры гэтым ён мае на руках дакументы пракуратуры і міліцыі аб тым, што ні ў чым не вінаваты. Розум адмаўляецца ўсё гэта асэнсоўваць. Верагодна, розум у гэтым выпадку павінен быць алагічным. Толькі тады звяжаш канцы з канцамі...

Разам з прапіскаю Валянцін Якаўлевіч пазбаўлены ўсіх ільгот інваліда. Напрыклад, ён не можа пашыць сабе абутак (спецыяльны, артапедычны), боты працякаюць і можна захварэць. Апранаецца Валянцін Якаўлевіч з дапамогай «добрых людзей» — хто што дасць. Зараз пахаладала, а ў яго — лёгкая куртачка. На ўсе выпадкі жыцця.

Начуе дзе прыйдзецца. На чыгуначным вакзале, у пераходах метро, бывае, нехта са спагадлівых мінчан запрашае ў кватэру. Яго ўжо многія ведаюць. Ён іншы раз стаіць ля Галоўпаштамта, ля рэзідэнцыі Прэзідэнта. Многім не шкада часу, чытаюць плакаты Валянціна Якаўлевіча ўважліва, звычайна не вераць: не можа, кажуць, такога быць. Луфераў ахвотна тлумачыць: можа. Вось жа я, жывы і стаю перад вамі — са мною такое здарылася.

Існуе ён у асноўным на міласціну. Людзі даюць, а што яны могуць даць яшчэ? Апошні раз, калі мы з ім бачыліся, Луфераў збіраўся на тыдзень ехаць да родзічаў, папрасіць хоць нейкі абутак — мёрзнуць ногі. Так і ў бальніцу можна загрымець. Ёсць, праўда, сумненні: без прапіскі не возьмуць і туды. Бадай, толькі ў морг яна непатрэбна, усіх бедалаг забіраюць. Адзіны шлях застаўся, ці што?..

24 верасня міліцыя ў чарговы раз яго затрымала. Склалі, як водзіцца, пратакол, хуценька завезлі ў Ленінскі нарсуд. Абвінавацілі ў парушэнні арт. $167^1$ Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях — праводзіў пікетаванне не там і не па закону, растлумачылі. Суддзя Грачова папярэдзіла Валянціна Якаўлевіча. У чым, ён так і не зразумеў. Яму паведамілі, што ў наступны раз адразу ўлепяць 15 сутак. А калі зноў будзе стаяць з плакатам, то яшчэ 15 сутак яму забяспечаны. І так да бясконцасці. Ці да таго моманту, пакуль Луфераў не вытрымае. Ён, зразумела, чалавек моцны, але ўсё мае свае межы...

Між тым, арт. 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прама дазваляе грамадзянам адкрыта гаварыць і наглядна паказваць факты неправамерных дзеянняў дзяржаўных уладаў. Права гэта, праўда, пакуль толькі на паперы. На Канстытуцыю ў нас існуе дастаткова іншых папер, якім чыноўнікі яўна аддаюць перавагу. Так зручней. Падзаконныя акты прыдумвае для сябе начальства і тыя, хто яго абслугоўвае, чытаюць не Канстытуцыю, а гэтыя акты.

А Валянцін Якаўлевіч ні суда, ні міліцыі не баіцца. Больш таго, прагне з імі сустрэчы, каб у адкрытым паядынку даказаць сваю праўду. Аднак у органах таксама не дурні сядзяць. Ім не ўсміхаецца стаць пасмешышчам — у юрыдычных тонкасцях Луфераў з'еў не аднаго сабаку...

...Я, вядома, разумею, чаму Луфераў і да яго падобныя так хвалююць улады. З аднаго боку, то той, то другі дзеяч гучна заяўляе, што дзяржава ў нас, безумоўна, прававая, а парушэнні правоў чалавека — ды што вы! З другога — маўкліва стаіць са сваім плакатам Луфераў Валянцін Якаўлевіч, чалавек без пашпарта і ўвогуле без правоў. Яны, яго правы, парушаны так дзіка, па-пячорнаму, што нармальны чалавек і паверыць у гэта не можа.

А хочацца ў Еўропу, хочацца, каб ведалі, паважалі і лічыліся. Хочацца ў замежныя камандзіроўкі, куды-небудзь у Страсбург ці Вену. І гэта так зразумела.

Але што рабіць з Луферавым, дзесяткамі і сотнямі падобных на яго? І чаму вы, паважаныя, так моцна крыўдуеце, калі вам гавораць аб парушэннях правоў чалавека ў Беларусі? Тут жа вось гаворка нават не аб палітычных рознагалоссях, тут чыста бытавое пытанне... Быць ці не быць. У літаральным сэнсе...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК

### НЕ ПАРУШАЙЦЕ ЗАГАД МІНІСТРА ФІНАНСАЎ

***Па абавязку службы мне даводзіцца бываць у камандзіроўках. А вось у нашым калгасе «Ударнік» камандзіровачныя выдаткі вяртаць не хочуць. Чаму?***

**Л. ЖУРАЎСКІ,**
**в. Слабодка, Шклоўскі раён.**

Магчыма, так робяць і ў іншых сельскіх гаспадарках. Таму адказ-тлумачэнне, што даў **начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Шклоўскага райвыканкома М. Бандацкі,** будзе вельмі дарэчы: «У гаспадарках нашага раёна пры вяртанні камандзіровачных расходаў кіруюцца загадам № 14 ад 7 лютага 1996 года міністра фінансаў Рэспублікі Беларусь. А гэты дакумент вызначае наступныя нормы вяртання такіх расходаў: сутачныя ў памеры 45.000 рублёў за кожны дзень камандзіроўкі; пры аднадзённых камандзіроўках і камандзіроўках у такую мясцовасць, адкуль ёсць магчымасць штодзённа вяртацца да месца пастаяннай работы, — 15.000 рублёў; расходы па найму жылога памяшкання аплачваюцца ў памеры, указаным у прадстаўленых рахунках, а без прад'яўлення пацвярджальных дакументаў — 10.000 рублёў.

Адсюль вынікае: калі работнік калгаса, саўгаса згодна з выдадзеным пасведчаннем паехаў у камандзіроўку, выканаў заданне і, вярнуўшыся, прадставіў у бухгалтэрыю ўсе належныя дакументы, то у адпаведнасці з імі яму і абавязаны выплаціць неабходную суму, а не разводзіць валакіту і не шукаць розныя прычыны, каб абвесці чалавека вакол пальца».

### БОЛЕЙ НЕ МАРОЗЬ, МАРОЗ, НАШЫ ВОДАКАЛОНКІ...

***Факт застаецца фактам: на працягу ўсёй мінулай зімы мы былі без вады. Няўжо і ў далейшым можа нас напаткаць такое бязводдзе?***

**Жыхары в. Валяр'янава**
**Мінскага раёна.**

Калі верыць рэагаванню **старшыні выканкома Бараўлянскага сельсавета П. Лапшына,** то гэта не павінна паўтарыцца. А ён, у прыватнасці, паведаміў:

— У вёсцы Валяр'янава летась была пракладзена водаправодная сетка з шасці водаразборных калонак. У зімовы перыяд 1995—1996 гадоў з-за глыбіннага прамярзання грунту частка яе была размарожана і выведзена са строю.

Для правядзення рамонту водаправода сельскім Саветам выкананы зямельныя работы з заменай абсталявання, якое прыйшло ў непрыгоднасць. Па стану на канец жніўня яны закончаны, водаправодная труба адрамантавана. Спачатку функцыянавала адна калонка, а астатнія ўведзены ў строй да канца верасня. Так што цяпер жыхары в. Валяр'янава маюць удосталь пітной вады.

### ЛЕПШ НАБЫЦЬ БУДЫНАК, ЧЫМ АРАНДАВАЦЬ ЯГО

***Паважаная рэдакцыя! Чуў, што ў Маскве нібыта лепш набываць будынкі ва ўласнасць, чым арандаваць іх. Паколькі я з'яўляюся прадпрымальнікам і мяне гэта цікавіць, не маглі б вы адказаць, ці так гэта?***

**Ігар Радкевіч, г. Мінск.**

Па інфармацыю мы звярнуліся ў Міністэрства гандлю краіны. Як там паведамілі, падобныя пытанні паступаюць туды, а таксама ў Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі ад зацікаўленых арганізацый і камерцыйных структур даволі часта. Звычайна просяць пасадзейнічаць у падборы нежылых будынкаў у Маскве пад склады, гандлёвыя базы і г. д. Таму пасольства накіравала міністэрству ў Мінск адпаведную інфармацыю наконт гэтага. Так, сапраўды, у Маскве шмат памяшканняў, якія здаюцца ў арэнду. Аднак кошт 1 кв. метра арэнды даволі высокі, што, на думку спецыялістаў, не заўсёды апраўдана. У той жа час зараз у Маскве практыкуецца набыццё будынкаў ва ўласнасць. Такія аперацыі зажыццяўляюцца з поўным выкананнем усіх юрыдычных патрабаванняў на падставе дагавора аб куплі-продажы, што можа мець немалое значэнне для пачынаючых справу беларускіх бізнесменаў у Маскве. Таму раім усім звяртацца на адрас: 127588, Масква, Верхняя вул., дом 1, пакой 422, фірма «Інтэхконсервіс», тэл./факс 976-35-76.

### МОНА ЛІЗА ПАСТАРЭЛА

***Дзесьці прачытаў, што ў апошні час нешта незразумелае адбываецца з адным з бессмяротных твораў Леанарда да Вінчы, а менавіта з загадкавай усмешкай Моны Лізы. Што здарылася?***

**Віталь Радзюк, г. Мінск.**

Сапраўды, чым больш пачалі прыглядацца да Моны Лізы, тым часцей пачалі заўважаць на яе твары замест добразычлівай анёльскай усмешкі крываватую ўхмылку. Тэорый наконт гэтага шмат. Але Жан Франк, мастацтвавед і кансультант Луўра, які прысвяціў усё сваё жыццё работам Леанарда, вылучыў новую гіпотэзу. Ён мяркуе, што ўсмешку Моны Лізы сказілі мікраскапічныя трэшчыны на пано. Пано, на якім напісаны партрэт, з пачатку XVI века значна пастарэла, а разам з ім і сама Мона Ліза. У яе з'явіліся маршчыны, якія і надалі ўсмешцы спакушальна-цынічны выраз.

# НА ЭСТРАДУ — ЗА ЭКЗОТЫКАЙ

**Вядомы беларускі кампазітар і тэарэтык Эдуард Ханок мае намер усур'ёз заняцца прадзюсіраваннем малодшай дачкі Святланы**

Аднак, калі спачатку бацька імкнуўся стварыць новае імя на Беларусі, то зараз вектар яго палітыкі накіраваны на Усход. Эдуард Ханок лічыць, што ў роднай краіне тэлевізійныя музычныя праграмы і некаторыя арганізатары канцэртаў адкрыта ігнаруюць з'яўленне будучай зоркі. «Альбо яны дэманструюць свой непрафесіянальны ўзровень, альбо гэта проста шкодніцтва», — скардзіцца Эдуард Сямёнавіч. А каб перамагчы шматлікіх шкоднікаў, тэарэтык вырашыў: мы пойдзем іншым шляхам. І накіраваўся ў расійскія музычныя праграмы.

Такім чынам Святлана «засвяцілася» ў шэрагу праграм: «Ранішняя зорка», «Акулы пяра», «Вернісаж» Ільі Рэзніка, «Ізмайлаўскі мюзік-хол», «Шыре круг». Атрымала запрашэнне зняцца ў «Смаку». Прытым далёка не за ўсе здымкі прыйшлося плаціць. Хоць пэўную фінансавую падтрымку праект «Святлана Ханок» мае, бо бацька зараз працуе ў фірме «Батыўля» дарадчыкам па культуры. Яго праца ажыццяўляецца па формуле: «Я маю імя, фірма мае грошы». Фірма у асобе дырэктара В. Немяржыцкага ў даўгу не застанецца: яна дапамагае Ханку фінансамі ў ажыццяўленні галоўнага праекта яго жыцця. Яшчэ тэарэтык і пісьменнік Э. Ханок спадзяецца, што дасць даход першая частка летапісу эстрады — «Ала «ў законе» хвалі», пра якую даўно і многа гавораць і якая да новага года павінна быць прадстаўлена на суд публікі. Па словах бацькі, праект «Святлана Ханок» прызнаны фірмай «Арс», а што датычыцца кошту, то абыдзецца ён разоў у пяць меней, чым «раскрутка» любой іміджавай зоркі. Бо Святлана адносіцца да галасавых спявачак, што значна аблягчае працу прадзюсеру, які спадзяецца, што яе голас загучыць на поўную моц пасля дваццаці гадоў. Зрэшты, гэта ўжо па тэорыі самога Ханка.



Што да практыкі, то ў выкананні 17-гадовай Святланы, навучэнкі музычнага вучылішча імя Глінкі, гучалі пакуль песні «Малітва» (сл. Г. Бураўкіна), «Сувораўскі вальс» (сл. Г. Сакалоўскага) і «Чароўная дама» (сл. Л. Рубальскай). У бліжэйшы час запускаецца песня С. Сухамліна «Сярэбраная мяцеліца».

А калі сумясціць тэорыю з практыкай, то Э. Ханок паспрабаваў пралічыць плюсы і мінусы пачынаючай спявачкі. Дрэнна, што яна не ўмее рухацца па сцэне, але гэта прыйдзе з вопытам. Добра: лёгка пішацца, амаль не робіць дубляў, не хвалюецца перад канцэртам, не баіцца куміраў. Увогуле, эстрадных куміраў для яе не існуе, яе «героі» — оперныя спевакі. А сама эстрада для Святланы Ханок існуе як экзотыка.

Цікава, колькі дзяўчына зможа праіснаваць у экзатычных умовах?

**Ларыса ЦІМОШЫК.**



**Алена Шчарбак з Беларусі — адна з пераможцаў конкурсу «Міс Еўропа-96».**

**Фота Пятра КАСТРАМЫ.**

## КАЛІ СЫХОДЗІЦЬ НАТАЛІ...

Наталля Кудрына, якая да нядаўняга часу працавала ў Дзяржаўным канцэртным аркестры, перайшла ў іншы калектыў. Развітацца з аркестрам давялося з-за мужчыны. Пераманіў уладальніцу гран-пры фестывалю «Маладзечна-94» не хто іншы, як Дзі-Бронкс. Загадкавая Наталі, якая разам з Дзі-Бронксам запісала альбом і нават знялася ў кліпе, пакінула дуэт. Ад разбітага сэрца Дзі-Бронкс пакутаваў не надта. Прывабіць новую Наталі аказалася няцяжка, бо «раскруткай» тэхнадуэта зараз вельмі актыўна займаецца фірма «Паліграм». Што да канцэртнага аркестра, які панёс чарговую страту, то там сцвярджаюць, што ў Кудрынай скончыўся тэрмін кантракту.

**На фота: Дзі-Бронкс і экс-Наталі.**



## МАСТАК, ЯКІ ХАВАЎ НАТУРУ

Мастак Уладзімір Акулофф — з тых людзей, якія аддаюцца спадарыні Творчасці поўнасцю. Але сярод іншых ён вылучаецца тым, што абсалютна абыякавы да вонкавых праяў жыцця. Чалавек, якому за 40, пакуль не стварыў сям'і, не мае ўласнага жытла, яго не надта турбуе знешні выгляд, не клапоцяць грошы (калі яны ёсць, то ўсё роўна хутка не будзе). Сярод людзей ён адзінокі і чужы, як лунацік.

Чэмпіён Беларусі па колькасці, вельмі прадуктыўны мастак, творы якога ахвотна купляюць калекцыянеры, рыхтуецца да выставы. Тут творца-бяссрэбранік паўстане ў новай якасці. Нечакана мастака напаткаў паэтычны ўздым. Вершы паліліся як фарбы на палатно. Хто павінны ў гэтым? Не шукайце адказаў звонку. Хутчэй за ўсё, гэта яго таямнічая натура, якую Уладзімір Акулофф хавае ад староннніх, вырвалася з путаў яго нелюдзімага характару. Вось такім чынам:

Сыйсці Паглынуцца
у размову Пачуць голас чорнага
хатняга чалавечка
Адкуль пахі ваніліну
Навошта ў здагадках губляцца
Ўсё цела прамерзла да блакіту
Нервы і час перапляліся.

# Жырыноўскі пацвярджае сваё аўтарства ліста Шарэцкаму, але блытаецца ў яго змесце

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)**

— У мяне на дачы, на ўрадавай дачы, дом вялікі, ад Масквы недалёка, хвілін дваццаць ехаць на машыне са спецсігналам, гэта хутчэй, чым у аэрапорт ехаць.

**— А навошта Сямён Георгіевіч у вас пасля зімы, як вы сцвярджалі, дублёнку прасіў?**

— Ды ён усё крыўдзіўся, што паабнасіўся, нічога няма, а што яму купіць дарагое? Дублёнку. У яго з маладосці засталося гэтае жаданне прыгожа апранацца; што, ён хадзіў увесь час у целагрэйцы ў сваім саўгасе.

**— А грошы калі вы перадасце Сямёну Геогіевічу ад амерыканскага пасла, як вы пісалі? Ці вы іх «прыкарманілі»?**

— Ды барані Бог!

**— А колькі гэтых грошай?**

— Ды па-рознаму, калі пяць тысяч, калі тры тысячы долараў, так гэта, ад трох да пяці тысяч долараў штомесячна.

**— А ў тым выпадку, калі, як вы пісалі, вам давялося распісвацца за Шарэцкага ў ведамасці?**

— Там, па-мойму, пяць тысяч долараў было. Гэта звычайная такая ведамасць у іх, то памесячная, то дэкадная, то за асобыя даручэнні. Там было запісана «За асобыя даручэнні». Мусіць, ён пачаў хвалю супраць Лукашэнкі, і пайшла зарплата, бо пастаянна яны не плацяць, шкада ім.

**— А чаму гэта робіцца праз Маскву, у нас жа ў Мінску ёсць сваё пасольства?**

— А там пасол слабы ў вас, іх у вас увесь час мяняюць, трэці пасол ужо... А ўвогуле, у нашага наладжаны ўжо сувязі, Беларусь жа была ў саставе СССР, і ў іх была наладжана сістэма падкормкі з Масквы. Паступовa гэтыя функцыі, вядома, пяройдуць да пасла ў Беларусі, туды трэба касу перадаць, падсілкоўванне павінна ісці, гэта ж іх схема, адкуль я ведаю, чаму яны плацяць пакуль з Масквы.

**— Няўжо яны маглі гэтыя грошы перасылаць праз вас?**

— А яны ведаюць, што ў мяне з Шарэцкім добрыя адносіны. Я ж ездзіў у Беларусь, я там быў у канцы жніўня, быў у вайсковым санаторыі «Лепель» пад Віцебскам. Ну і Сеня туды прыязджаў, пакупаліся разам у возеры, і вось там заадно я грошы аддаў. Нашто мне іх трымаць. У мяне і яшчэ ёсць грошы, Пікерынг не шкадуе на барацьбу з Лукашэнкам... Колькі заўгодна дасць грошай, абы Сямён змагаўся. Я яго хачу спыніць, ну, ён заробіць прыстойныя грошы, купіць машыну, дачу, можа быць, дом у Нью-Йорку, а далей што? Беларусі ж ён здраджвае...

**— Скажыце, а вы асабіста да Лукашэнкі добра адносіцеся?**

— Нармальна, я амаль не сустракаўся з ім. Калі ў Маскве бывае, мала сустракаемся...

**— А Аляксандра Рыгоравіча вы ў сваю лазню не запрашалі?**

— Не, часу няма, графік у яго, графік. Я хацеў, каб мы з ім убачыліся, ды нешта не атрымалася... У Крамлі былі на інаўгурацыі 9 жніўня, у красавіку ў Крамлі, а так індывідуальна пакуль не атрымалася.

**— Ці праўда, што раней вы яго конюхам назвалі?**

— Ні ў якім разе, я да Лукашэнкі добра адношуся. За яго добрыя адносіны да Расіі і беларускага народа, ён жадае дабра беларускаму народу, любіць свой народ.

**— А ці знаёмы вы з праектам Канстытуцыі, які прапаноўвае А.Лукашэнка на рэферэндум?**

— У агульных рысах.

**— А разумееце вы яго агульны сэнс?**

— Так, прэзідэнцкі рэжым. Я за гэта. Не трэба баяцца — Лукашэнка дэмакрат. А што там білі 26 красавіка на праспекце, дык гэта ўсюды робяць, у любой краіне свету...

**— Але штосьці я не веру ў шчырасць вашых слоў пра Шарэцкага, як бы вы маглі даказаць?**

— Ды ён прыедзе зноў да мяне, і я вас паклічу... А калі з ім будзеце часцей сустракацца, дык таксама пачняце грошы атрымліваць у амерыканскім пасольстве, будзеце разам прыязджаць атрымліваць долары. Пачніце барацьбу супраць свайго ўраду, і амерыканцы будуць вам плаціць, яны ўсім плацяць, хто змагаўся са сваімі нацыянальнымі ўрадамі... Як камуністы ў свой час плацілі ўсім, хто змагаўся з буржуазнымі ўрадамі за камуністычныя перавароты.

**— Уладзімір Вольфавіч, а вам ніхто не плаціць за вашу работу, за ўмяшанне ва ўнутраныя справы Беларусі?**

— Я ж не кажу, што праўда за Лукашэнкам ці не, я асабістую думку выказваю. Я кажу Шарэцкаму: слухай, Сеня, пакінь у пакоі Лукашэнку, ён усё робіць правільна.

**— Ці ўсведамляеце вы, што ўмяшаліся не ў спрэчку Івана з Пятром, а ў канфлікт дзвюх галін улады ў Беларусі, і нават тым самым толькі дапамаглі Шарэцкаму ва ўмацаванні свайго аўтарытэту...**

— Так, ну, дык добра...

**— ...і нашкодзілі Лукашэнку, хаця вы да яго добра адносіцеся**

— Ну што ж...

*Не ведаю, ці патрэбны тут нейкія яшчэ каментарыі да прыведзенай вышэй амаль стэнаграфічнай гутаркі, ці патрэбны шчырыя і рэзкія ацэнкі асобы самога Жырыноўскага і яго экстравагантных учынкаў? Такіх ацэнак ужо шмат гучала ў адносінах да Жырыноўскага з гэтай і многіх іншых нагод. Сам Уладзімір Вольфавіч, аўтар сенсацыйных кніг і пісьмаў, гаворачы аб крыніцах даходаў ягонай партыі, неяк зазначыў: «Вось вы, журналісты, ганіце мяне, і знаходзяцца людзі, што мне плацяць за гэта. Каб зваліць Жырыноўскага, яго трэба хваліць». Хваліць яго, аднак, мы не будзем. Кожны чытач можа і сам зрабіць выснову. Трэба толькі яшчэ раз падкрэсліць, што Сямён Шарэцкі, пра асобу якога пісаў і гаварыў Жырыноўскі, рашуча абверг усе яго несумленныя выказванні і звярнуўся ў КДБ Беларусі з просьбай высветліць абставіны з'яўлення таго скандальнага ліста. Думаецца, што пасля гэтай публікацыі ў Сямёна Георгіевіча, які асабіста сутыкнуўся з нахабным цынізмам Жырыноўскага і адчуў крыўдную несправядлівасць яго дзеянняў, ёсць цяпер усе падставы, каб не сумняваючыся падаць на Жырыноўскага ў суд па абароне гонару і годнасці. У мяне няма сумнення, што гэты суд Шарэцкі выйграе. Плёнку ж з дыктафонным запісам «шчырасцяў» Жырыноўскага мы захаваем.*

**Гутарыў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## У ЛІКІ — «НОЧ БЕЗ СНУ»

**Усім цікава, якія навіны ў прэзідэнта... Дык вось, у Лікі Ялінскай — прэзідэнта ўласнай фірмы «Артклуб «Ліка» — шмат добрых навін, адна адной вартая.**

Можна смела сцвярджаць: лета для гэтай беларускай прыгажуні і спявачкі прайшло недарэмна. Прыемныя клопаты прынёс пераезд у «свежакупленую» кватэру. Праўда, Лікінай дачцэ Дашы дзеля гэтага прыйшлося памяняць школу (зараз дзяўчынка — трэцякласніца 168-й сярэдняй школы сталіцы), аднак новы музычна-харавы клас вельмі падабаецца ёй.

А дзе і з кім адпачывала «зорная» Дашына мама сёлета? Разам з дачкой, каханым і шматлікімі сябрамі Ліка лятала ў балгарскі горад Насэбар, да сяброў Мішы і Пэпі.

Калі прыйшоў час вяртацца ў Мінск, у Лікі была вялікая спакуса забраць з сабой... чыстае мора, цудоўны пясочак, смак садавіны...

А што можа быць лепш за ўсё гэта? Толькі адно — «Ноч без сну», дзеля якой Ліка ездзіла ў сярэдзіне лета ў польскі горад Кракаў, з настроем моцнай жанчыны, упэўненай у сабе і сваім будучым.

Растлумачу: «Ноч без сну» — новая музычная праграма спявачкі, якую яна запісала за 12 дзён у кракаўскай студыі. У пачатку кастрычніка ўбачыць свет аднайменны магнітаальбом (яго выпускае фірма «Рэкорд») і... кампакт-дыск! (Месца яго «нараджэння» Ліка пакуль трымае ў сакрэце.)

Дык каму ж дзякаваць за тое, што спявачка дорыць сваім прыхільнікам тую самую «Ноч без сну», якую адны знаўцы эстрады лічаць празмерна смелай і незразумелай, а другія ўжо называюць з'явай года?.. Напэўна, словы падзякі трэба выказаць самой спявачцы, але не абышлося і без любімага ёю кампазітара Мікалая Няронскага, а дакладней — без яго музыкі да 18 новых песень. А яшчэ над стварэннем гэтага альбома плённа папрацавалі паэтэсы Валянціна Паліканіна і Алена Турава.

Дарэчы, папулярны балгарскі спявак Васіл Найдзёнаў, а таксама яго прадзюсер — адны з самых першых слухачоў новай праграмы «Ноч без сну» — прапанавалі Ліцы арганізаваць вялікае турнэ з сумеснымі канцэртамі спачатку ў Балгарыі, затым — у Беларусі. Гэта ў перспектыве.

А сёння Ліка ўжо паспела выступіць са сваёй новай канцэртнай праграмай у Светлагорску, дзе была цёпла прынята публікай, і зараз збіраецца ў вялікае турнэ па ўсёй Беларусі.

**Алена КЛІМЕНКА.**

## «ПАБЯСЕДУЕМ» ПАД СІНТЭЗАТАРЫ?

Гэта не першая спроба перакласці беларускую народную песню на сучасную мову. Толькі зараз у якасці перакладчыка выступіў Якаў Навуменка. Менавіта па яго задуме гурт «Бяседа» запісаў чатыры новыя песні пад акампанемент сінтэзатараў. Гэта зусім не тое, што «Песняры» ці «Палац», сцвярджае спявак, гэта тая ж «Бяседа», тыя ж папулярныя народныя песні, але значна памаладзелыя.

НА ЧАРНОБЫЛЬСКІМ МЕРЫДЫЯНЕ

# У ЗОНЕ АТАМНАЙ СТАНЦЫІ СТАНЕ БОЛЬШ СПАКОЙНА...

**Бяз'ядзерная Беларусь акружана чатырма атамнымі электрастанцыямі суседніх дзяржаў. Каб якая-небудзь з АЭС не падкінула нам нечаканага «сюрпрызу», краіна павінна мець пэўную сістэму кантролю. Першы крок у гэтым напрамку ўжо зроблены: у рэспубліцы пачала дзейнічаць аўтаматызаваная сістэма ранняга апавяшчэння аб радыяцыйнай абстаноўцы вакол Ігналінскай АЭС «Гама-1»**




***І ПРЫЕМНА ЖЫЦЬ, маючы пад бокам такога «суседа», як Чарнобыльская АЭС? Адказ на пытанне відавочны. Зрэшты, у 30-кіламетровым радыусе вакол ЧАЭС на тэрыторыі Беларусі практычна ніхто і не жыве, бо гэта зона эвакуацыі і Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік.***

***Але ж, калі ўдумацца, літоўская Ігналінская АЭС «падсунулася» да межаў Беларусі яшчэ бліжэй, чым тая ж Чарнобыльская станцыя! Вось што з гэтай нагоды, успамінаючы «тыя самыя» красавіцкія дні 1986 года, гаворыць начальнік Браслаўскай радыяцыйна-экалагічнай лабараторыі Камітэта па гідраметэаралогіі Анатоль ПЛІСКО:***

***— На працягу чатырох гадоў пасля аварыі на ЧАЭС у 30-кіламетровай зоне вакол Ігналінскай станцыі ў нас на Браслаўшчыне назіраўся масавы адток насельніцтва. Яно і зразумела: у свядомасці людзей пасялілася паніка, яны амаль нічога пра сітуацыю не ведалі, а растлумачыць ім што-небудзь у тыя гады па вядомых прычынах не было магчымасці. Шмат потым прыйшлося папрацаваць, каб нармалізаваць псіхалагічную абстаноўку.***

***Спецыяліст мае на ўвазе і ранейшыя ўрадавыя меры, і, галоўнае, укаранёны цяпер праект «Гама-1», рашэнне аб рэалізацыі якога ўрад прыняў яшчэ ў 1993 годзе.***

***Сёння жыхары райцэнтра, ідучы раніцай на работу, «счытваюць» са спецыяльнага вялікага табло ўсю неабходную інфармацыю. І крочаць далей весялейшыя, бо бачаць: радыяцыйны фон у норме. Гэты прыклад, скажам, бытавога ўзроўню — толькі малая частка тых магчымасцей, якія мае шматабяцальная сістэма «Гама-1».***

***Яна распрацавана ў рамках супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь і Камісіі еўрапейскіх супольніцтваў (КЕС), праграмы «Тасіс», а ажыццявіла праект вядомая фірма «Хёрман» з Германіі. Вартасці і перспектывы сістэмы ранняга апавяшчэння ім былі прадэманстраваны ў Рэспубліканскім цэнтры радыяцыйнага кантролю і маніторынгу прыроднага асяроддзя (ЦРКМ) Камгідрамета, які ўваходзіць у састаў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.***

Даныя па радыяцыйнай абстаноўцы вакол Ігналінскай АЭС — зусім не мясцовая браслаўская «манаполія» — яны ўмомант «перакідваюцца» ў Рэспубліканскі цэнтр радыяцыйнага кантролю і маніторынгу. Начальнік аддзела аналізу экстрэмальна высокага забруджвання Святлана Гузік, дэманструючы магчымасці сістэмы «Гама-1», націскае некалькі клавішаў тэлевізійнага камп'ютэра — так званага сервера. На экране адразу з'яўляюцца лічбы: сярэдні ўзровень фону ў тым жа Браславе за дзень складае 10 мікрарэнтген у гадзіну — самы нармальны радыяцыйны фон. Што называецца, натуральны. А калі ўзнікне нешта падобнае на надзвычайную сітуацыю?

— Калі ў 30-кіламетровай зоне вакол Ігналінскай АЭС з'явяцца значэнні радыяцыйных узроўняў вышэй як 35 мікрарэнтген у гадзіну, — тлумачаць у ЦРКМ, — да нас адтуль адразу паступіць сігнал папярэджання. Цэнтр тэрмінова перадасць усю трывожную інфармацыю ў Кабінет Міністраў, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Мінаховы здароўя — для прыняцця імі неабходных практычных рашэнняў. Адразу, зразумела, аб усім праінфармуецца і мясцовае насельніцтва.

Начальнік ЦРКМ Іван Мацвеенка дэталёва абмаляваў няпросты механізм дзеяння ўсёй сістэмы ранняга апавяшчэння. У спрошчаным пераказе ён выглядае наступным чынам. У самім Браславе, у Мяжанах, Відзах, Карасіна і іншых населеных пунктах 30-кіламетровай зоны на беларускай тэрыторыі размешчаны дзевяць стацыянарных аўтаматызаваных станцый-пастоў радыяцыйнага маніторынгу. Пры неабходнасці можна падключыць і чатыры дадатковыя перасоўчыя пасты.

Станцыі маніторынгу штохвілінна вядуць назіранні і збіраюць інфармацыю, кожныя 10 хвілін, без умяшання чалавека, яны па радыёсувязі ў аўтаматычным рэжыме перадаюць даныя ў Браслаўскую лабараторыю, дзе яна захоўваецца ў базе даных сервера 60 сутак. Па прамому каналу сувязі Браслаў—Мінск інфармацыя адразу перакідваецца ў базу даных Цэнтра, дзе захоўваецца ўжо 400 дзён. Тут яна адразу аналізуецца і па неабходнасці перадаецца ва ўрад, міністэрствы і ведамствы. Так што ад «нечаканасцей» з боку Ігналінскай АЭС мы ўжо ў многім гарантаваны.

... Не многія ведаюць, што ў Беларусі ў нечым падобная сістэма ўжо існавала. Вось што паведаміў старшыня Камгідрамета Юрый Пакумейка:

— Пасля чарнобыльскай катастрофы мы стварылі ў зоне ЧАЭС тры станцыі сачэння за радыяцыйнай абстаноўкай. Аднак пасля распаду Саюза, з-за вядомых эканамічных прычын, створаная тады сістэма перастала існаваць. Не сакрэт, што «інцыдэнты» на АЭС вакол Беларусі выклікаюць апасенні таксама і ў краінах Заходняй Еўропы, — падкрэсліў Юрый Міхайлавіч. — Таму сумесна з КЕС і было прынята рашэнне распрацаваць так званы пілотны праект «Гама-1» у дачыненні да Ігналінскай АЭС. З метай атрымаць дакладную інфармацыю аб узроўнях радыяцыйнага забруджвання пры магчымых ядзерных інцыдэнтах на гэтай станцыі, а таксама каб адпрацаваць усе напрамкі такога радыяцыйнага маніторынгу. Спадзяюся, што пасля выпрабаванняў новай сістэмы мы атрымаем далейшую падтрымку з боку Камісіі еўрапейскіх супольніцтваў, каб можна было распрацаваць праекты «Гама-2», «Гама-3» і г. д. У першую чаргу, зразумела, гэта датычыцца Чарнобыльскай станцыі, якая прыносіць Беларусі найбольш клопатаў.

А як глядзіць на гэту прапанову сама Камісія еўрапейскіх супольніцтваў? Дакладней, яе прадстаўнік у Беларусі Філ Джынс, які займаўся праектам «Гама-1» каля чатырох гадоў?

Тым, што зрабілі спецыялісты фірмы «Хёрман» і іх беларускія памочнікі, эксперт КЕС увогуле задаволены. Ён, у прыватнасці, адзначае факт: пры адным з выпрабаванняў сістэмы «Гама-1» інфармацыя з Браслава ў Мінск ішла толькі 4 хвіліны 21 секунду. А самы хуткі час быў: 1 хвіліна 6 секунд.

— Я не ведаю ў Заходняй Еўропе ні адной падобнай сістэмы, па якой можна было б так хутка атрымліваць інфармацыю аб радыяцыйным стане вакол аб'екта, — падагульніў Філ Джынс. — Гэта паказальна. Але ж галоўная работа яшчэ наперадзе. Цяпер наступіў час, калі мы ўсе разам павінны выпрабаваць сістэму, ацаніць яе моцныя і слабыя бакі.

Так, шасцімесячныя выпрабаванні «Гамы-1» канчаткова і пакажуць усе яе магчымасці, як і нашу здольнасць эксплуатаваць яе на высокім узроўні, па еўрапейскіх стандартах. Вось калі будзе вырашацца пытанне далейшага фінансавання з боку КЕС новых праектаў. А што можа быць больш важным для «чарнобыльскай» Беларусі?

Усе гэтыя пытанні і хвалююць першага намесніка міністра па надзвычайных сітуацыях Ігара Ралевіча, які адзначае: нацыянальная бяспека як Беларусі, так і заходніх краін у радыяцыйным плане будзе залежаць ад таго, наколькі хутка мы будзем атрымліваць адпаведную інфармацыю з наваколля не толькі Ігналінскай, але ўсіх чатырох атамных станцый, размешчаных вакол нашай краіны. Тым больш, што ўсе сістэмы сямейства «Гама» яшчэ лепш праявяць сябе, калі стануць працаваць у адной «звязцы» з вядомым міжнародным праектам «Родас».

Гэты праект, дарэчы, дзейнічае ў краінах Еўрапейскага саюза, мае да яго доступ і Беларусь. Раней сістэма «Родас» прадугледжвалася ў асноўным для папярэджання, распрацоўкі і прыняцця рашэнняў на дзяржаўным узроўні ў час аварыйных сітуацый пры ядзерных інцыдэнтах. Гэта зразумела: па велізарнай сетцы «Родаса» збіраецца і перадаецца вялікі аб'ём інфармацыі як па радыяцыйнай сітуацыі ў еўрапейскіх краінах, так і метэаралагічнай. У суме ж два гэтыя праекты дадуць куды большыя магчымасці прымаць па ўрадавым узроўні хуткія і граматныя рашэнні па абароне насельніцтва.

... Праекты не застаюцца толькі пражэктамі пры адной галоўнай умове — пры наяўнасці грошай на іх ажыццяўленне. Пытанне ж гэта, як гаворыцца, слізкае. І ўсё ж у час дэманстрацыі работы сістэмы «Гама-1» прадстаўніца КЕС па ажыццяўленню праграмы «Тасіс» Сара Кехусмаа-Пеканен знайшла магчымым паведаміць:

— Вядома, што ў наступным годзе прадугледжваецца выдзяленне на разнастайныя праекты чарнобыльскай накіраванасці даволі вялікіх сродкаў — да 1,5 мільёна ЭКЮ. Я ведаю, што значныя сумы будуць накіраваны і на экалагічныя праекты, і менавіта беларускім арганізацыям.

Хацелася б зразумець гэта выказванне так, што сродкі на новыя праекты тыпу «Гама» ў Заходняй Еўропе знойдуцца. Застаецца толькі прадэманстраваць свой прафесіяналізм і паказаць гэтым, што грошы будуць выкарыстаны з толкам і аддачай. Бо першая ўжо ластаўка — сістэма радыяцыйнага апавяшчэння «Гама-1» паказвае, як можна бараніць ад «мірнага» атама сябе, сваіх суграмадзян. А сцеражонага, як вядома, і Бог сцеражэ.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

# ЦІ ДАПАМОЖА СТРАСБУРГ У РАЗВЯЗВАННІ «ЧАЧЭНСКАГА ВУЗЛА»?

**Савет Еўропы лічыць сваім важнейшым клопатам дапамогу мірнаму вырашэнню чачэнскага крызісу. Гэта яшчэ раз пацвердзілі падзеі ў Страсбургу падчас асенняй часткі сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы**

Тэма Чачні заўсёды была вызначальнай у адносінах Расіі і Савета Еўропы, з-за вайны ў Чачні была ў свой час замарожана расійская заяўка на членства ў СЕ, з абавязковай умовай мірнага вырашэння чачэнскай праблемы сёлета Расія была прынята ў СЕ... Таму калі гэтым летам пасля другога тура прэзідэнцкіх выбараў вайна ў Чачні ўспыхнула з новай сілай, у Савеце Еўропы былі разгублены і расчараваны. Аднак паспрабавалі канкрэтна паўплываць на сітуацыю.

11 і 24 ліпеня прэзідэнт ПАСЕ Лені Фішэр звярнулася з заявамі пратэсту супраць зрыву мірных дамоўленасцей, а парламентарый Эрнст Мюлеман, які кіруе спецыяльнай камісіяй ПАСЕ, што неаднойчы пабывала ў Чачні, накіраваў спецыяльныя пасланні В.Чарнамырдзіну, А.Лебедзю, А.Масхадаву, падштурхоўваючы іх да спынення ваенных дзеянняў. Лені Фішэр звярнулася таксама да нямецкага канцлера Коля і прэзідэнта АБСЕ Коці з просьбай паўплываць непасрэдна на Ельцына. У канцы жніўня камісія Мюлемана выехала ў Расію, дзе і правяла перагаворы з А.Лебедзем, саветнікам прэзідэнта РФ Э.Паінам, міністрам унутраных спраў А.Кулікоўым, іншымі кіраўнікамі Расіі, а таксама прадстаўнікамі чачэнскага боку і АБСЕ.

Менавіта тады і ўзнікла ідэя запрасіць у Страсбург на асеннюю сесію ПАСЕ Аляксандра Лебедзя і Аслана Масхадава, каб заслухаць і падтрымаць іх. А.Лебедзь у адказ на запрашэнне зазначыў: «Прыеду, калі буду на той час жывы».

Потым вакол гэтага запрашэння разгарэлася вялікая закулісная барацьба, перш за ўсё з боку расійскіх уладаў, якія не столькі былі супраць візіту А.Лебедзя ў Страсбург, колькі не хацелі б дапусціць туды Масхадава. Супраць гэтага выступіў і расійскае МЗС, і кіраўнік расійскай дэлегацыі ў ПАСЕ, старшыня міжнароднага камітэта Дзярждумы Уладзімір Лукін... Спрэчка закончылася перамогай Лукіна, прычым у няёмкае становішча былі пастаўлены і прэзідэнт ПАСЕ Лені Фішэр, і Масхадаў з Лебедзем. Апошні за два дні да адкрыцця сесіі ПАСЕ паведаміў Лені Фішэр, што ў сувязі з прадаўжэннем перамоў у Чачні ён не можа прыбыць у Страсбург, але гатовы праінфармаваць Асамблею аб ходзе мірных урэгуляванняў у Чачні пры іншай нагодзе.

Такім чынам, слуханні па сітуацыі ў Чачні ў Парламенцкай асамблеі СЕ з удзелам двух генералаў не адбыліся. Але гэтая тэма ўсё-такі дамінавала ў першыя дні сесіі на прэс-канферэнцыях, на пасяджэннях камітэтаў і палітычных груп, гучала яна і на пленарным пасяджэнні падчас абмеркавання даклада аб выніках паездкі камісіі Э.Мюлемана. Уладзімір Лукін яшчэ раз падкрэсліў, што Чачня — гэта ўсяго толькі суб'ект Расійскай Федэрацыі, і таму Масхадаў тут, у Страсбургу, не можа кагосьці прадстаўляць, іначай будзе парушана дамоўленасць аб пяцігадовым мараторыі на вызначэнне статусу Чачні. Аднак Лені Фішэр тлумачыла сітуацыю па-свойму:

— Расію прымалі ў Савет Еўропы з умовай заканчэння вайны ў Чачні, і таму мы запрасілі дваіх чалавек, якія падпісалі мірнае пагадненне, каб выслухаць іх і ўпэўніцца, што гэта сапраўды адбылося. Тым самым мы хочам падтрымаць міратворчы працэс у Чачні.

Лені Фішэр выказала меркаванне, што Лебедзь і Масхадаў усё ж прыбудуць у Страсбург у лістападзе гэтага года для ўдзелу ў рабоце аднаго з камітэтаў, дата будзе прынята прымальная для запрошаных. Л.Фішэр выказала разуменне ўнутрыпалітычнай расійскай сітуацыі, звязанай з хваробай Ельцына і іншым. Але пэўная крыўда ў яе словах адчувалася. Такім чынам, можа быць упершыню Савет Еўропы паддаўся актыўнаму націску Расіі, выканаў яе ўмовы, адмяніўшы ўсякія слуханні па Чачні. Нельга, аднак, сказаць, што еўрапейскія парламентарыі былі ўсе як адзін згодны з гэтым. «Гэта не самы добры старт расійскага членства ў Савеце Еўропы — зрываць важныя слуханні, якія чакаліся з вялікай цікавасцю»— заявіў дэпутат Хальгрым Берг з Нарвегіі ад імя Еўрапейскай дэмакратычнай групы ў ПАСЕ.

Тым не менш, жорсткая пазіцыя Расіі, як выглядае, не прынесла ўсіх жаданых вынікаў. Нягледзячы на рашэнне бюро ПАСЕ, якое прыпыняла ўсякае абмеркаванне чачэнскай праблематыкі ў Савеце Еўропы і пераносіла іх на няпэўны тэрмін, у камітэце па юрыдычных пытаннях і правах чалавека такое абмеркаванне адбылося, прычым з удзелам прадстаўнікоў Чачні і праваабарончых арганізацый. Камітэт па юрыдычных пытаннях запрасіў на сваё пасяджэнне чачэнскую дэлегацыю на чале з міністрам замежных спраў пры ўрадзе Яндарбіева Русланам Чымаевым. Іх прымалі не толькі ў кулуарах Палаца Еўропы ў Страсбургу, але і ў палітычных групах і іншых камітэтах ПАСЕ. Уладзімір Лукін і іншыя члены расійскай дэлегацыі не хавалі свайго раздражнення з гэтай нагоды: «Мы не дапусцім, каб у Страсбургу былі дзве дэлегацыі ад Расіі. Расійская парламенцкая дэлегацыя будзе далей пазбягаць супрацоўніцтва з юрыдычным камітэтам ПАСЕ і ўсімі іншымі структурамі, якія пойдуць на афіцыйныя кантакты з прадстаўнікамі чачэнскіх сепаратыстаў. Расія будзе рэагаваць на замежныя кантакты з Чачнёй, як Кітай — на дзеянні іншых дзяржаў у адносінах да Тайваня». Уладзімір Лукін згаджаўся на слуханні па сітуацыі ў Чачні, па захаванню там правоў чалавека толькі з удзелам розных бакоў ад саміх чачэнцаў, у тым ліку Заўгаева, і толькі па ўзгадненню з афіцыйнай Масквой. Кіраўнік юрыдычнага камітэта ПАСЕ быў здзіўлены такім падыходам Лукіна і заявіў у адказ, што яго камітэт мае права заслухаць любых грамадзян па праблеме правоў чалавека... Такі вось атрымаўся першы канфлікт Расіі ў Савеце Еўропы.

Іншыя расійскія парламентарыі былі менш рашучымі ў сваіх выказваннях, але таксама выступалі супраць слуханняў па Чачні ў Савеце Еўропы, заяўляючы, што Чачня — гэта перш за ўсё ўнутрырасійская праблема. Генадзь Зюганаў і Мікалай Фёдараў прапаноўвалі раней зрабіць парламенцкія слуханні па Чачні ў самой Расіі, прычым Г.Зюганаў заявіў, што такія слуханні ў расійскім парламенце адбудуцца ўжо ў кастрычніку. Генадзь Зюганаў спадзяецца, што на рэферэндуме па статусу Чачні не будзе прынята рашэнне аб яе аддзяленні, што рэферэндум гэты, відаць, будзе праводзіцца па ўсёй Расіі. На яго думку, аддзяленне Чачні будзе азначаць распад Расіі, што стане «агульнапланетарнай катастрофай», выкліча адасабленне Паўночнай Ірландыі, баскаў, каталонцаў... У.Жырыноўскі ў сваім амплуа пужаў Еўропу чачэнскімі баевікамі, прапаноўваў агарадзіць Чачню ад Расіі калючым дротам і г.д. Толькі адзін расійскі дэпутат, Сяргей Кавалёў, меў спачуванне да народа, які перажыў раней і перажывае зараз страшэнную катастрофу.

А прадстаўнікі чачэнскага ўрада на чале з міністрам замежных спраў Русланам Чымаевым у той час, калі расійскія дэпутаты на пасяджэннях і прэс-канферэнцыях у Страсбургу так жорстка выказваліся, фактычна забараняючы еўрапейцам кантакты з урадам Яндарбіева, — мэтанакіравана наладжвалі гэтыя самыя кантакты, давалі інтэрв'ю журналістам, лабіравалі свае інтарэсы ў тых жа сценах Палаца Еўропы. Яны сабралі вакол сябе вядомых праваабаронцаў, такіх як Сяргей Грыгар'янц, дэпутатаў з Літвы і іншых краін, арганізавалі пастаянна дзеючы міжнародны «круглы стол» па праблемах Чачні і ў яго рамках імкнуліся зрабіць свой уплыў на Савет Еўропы, разумеючы яго як арганізацыю, якая можа паспрыяць вырашэнню іх праблем і аказаць пэўны ціск на Расію. Міністр замежных спраў Чачні Руслан Чымаеў таксама хацеў правесці сустрэчу з журналістамі ў прэс-цэнтры Савета Еўропы, але гэтага не дапусціла расійская дэлегацыя. Прэс-канферэнцыю ён правёў у зале аднаго са страсбургскіх атэляў. Ён акцэнтаваў увагу на зацікаўленасці свайго ўрада на разглядзе праблемы парушэння правоў чалавека ў Чачні ў камітэтах Савета Еўропы.

Чачэнскія прадстаўнікі былі не вельмі расчараваны тым, што не адбыліся слуханні ў Парламенцкай асамблеі з удзелам генералаў Лебедзя і Масхадава. Апошнім у выпадку такіх слуханняў трэба было б рэагаваць на вострыя выпады з розных бакоў, ім жа патрэбна на сённяшнім этапе займацца перш за ўсё міратворчай і стваральнай працай, не адцягваючыся на другараднае,— так тлумачылі сваю пазіцыю неафіцыйныя чачэнскія прадстаўнікі ў Савеце Еўропы, якія прыехалі сюды са спецыяльнай місіяй, што падвяргалася актыўнай «нейтралізуючай» апрацоўцы з боку расійскіх парламентарыяў і ўрадавых структур.

— Мы спадзяёмся, што Савет Еўропы будзе трымаць дзверы адчыненымі для ўсіх людзей, якія цярпяць ганенні, для ўсіх народаў, якія знішчаюцца, не робячы розніцы паміж вялікімі і малымі народамі,— заявіў Руслан Чымаеў на прэс-канферэнцыі.— Нам патрэбна дапамога ў аднаўленні разбуранай краіны, у стварэнні рабочых месцаў, і мы спадзяёмся, што Савет Еўропы прыме рашэнне аб арганізацыі такой дапамогі Чачні. Чачэнскі народ мае права на прызнанне міжнароднай супольнасцю яго дзяржавы, бо ён ахвяраваў дзеля гэтага 10 працэнтаў свайго насельніцтва.

Апошні факт, тое, што не толькі Расія апелюе да Савета Еўропы, але і прадстаўнікі чачэнскіх сепаратыстаў бачаць у ім арганізацыю, якая можа станоўча паспрыяць развязванню «чачэнскага вузла», трэба назваць даволі аптымістычным. Абодва бакі прызнаюць аўтарытэт буйных міжнародных арганізацый, таму на гэты аўтарытэт можна абапірацца. Чачня жадае партнёрства ў галіне правоў чалавека з Саветам Еўропы,— заявілі Э.Мюлеману прадстаўнікі чачэнскага боку. У.Лукін таксама хацеў бы разгляду праблем правоў чалавека ў Чачні, хаця, можа быць, ён разумее і іншыя, чым чачэнцы, праблемы. Тым не менш, гэта дае яшчэ адзін шанц, яшчэ адну магчымасць падтрымаць мір у Чачні, у тым ліку дзякуючы Савету Еўропы. Аднак відавочна, што еўрапейскім парламентарыям яшчэ не аднойчы давядзецца звяртацца да гэтай тэмы, пакуль канчаткова не будзе вырашаны статус Чачні і не пагасне вугалле вайны і насілля.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*Страсбург — Мінск.*

### АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# КАЛІ КАЛІНА НЕ ЦВІЛА

Каліна, як доля жаночая, — і прыгожая, і лекавая, і гаркаватая...

Вясною, калі ўся прырода жыве абнаўленнем і хвалі любові-кахання раскалыхваюць прастору, каліна прываблівае сваёй пяшчотнай чысцінёй. Ахутаная снежна-белаю квеценню, яна зачароўвае сваёй нябесна-зямной таямнічасцю. Аднак праходзяць дні, тыдні — і вабныя з вясны кусты каліны губляюцца сярод зеляніны ўзлескаў, лагчын. І толькі восенню, асабліва позняй, калі настырны сівер прымусіць скінуць былую зялёную апратку, гараць калінавыя кусты яркай чырванню: жыццёвы плён — гронкі ягад вяртаюць ім прамяністае хараство і загадкавасць.

Вось такі і лёс дзяўчыны. Пасля юнацкай узнёсласці, разнастайных узрушэнняў яна паўстае ў сталыя гады прыцягальна-недасягальнаю асобаю. Таму ў фальклорных творах услаўляецца каліна — мастацкі сімвал дзяўчыны. Да паралелі «каліна—дзяўчына» пастаянна звяртаюцца паэты.

Параўнанне паслядоўных перыядаў сталення моладзі з росквітам вольнай расліны прасочваецца ў народнай песні «Калі каліна не цвіла», запісанай Васілём Купрыяненкам (мастацкім кіраўніком ансамбля «Свята») у Хойніцкім раёне — на радзіме Івана Мележа. Па-народнаму проста, на прыкладзе звычайнай прыроднай з'явы — перыядах цвіцення і спеласці каліны, — у гэтым вакальным творы перадаецца вывераная не адным людскім пакаленнем жыццёвая мудрасць: любі, кахай — і беражы душу, падтрымлівай яе крыштальную чысціню, дараваную роднай прасторай.

Адносіны тым мацнейшыя, калі прайшлі выпрабаванне на трываласць. Для моладзі такі адказны час — служба юнакоў у войску. Там пачуцці замілаванасці, захаплення, любові перарастаюць у каханне. А гэта ўжо азначае, што надышоў той момант, калі выспела жаданне свядома прадоўжыць род.

Песня «Калі каліна не цвіла» адносіцца і да любоўна-лірычных (па структуры), і да салдацкіх (па тэматыцы). Яе спяваюць на вечарынах — провадах нававбранцаў у армію.

Ласкава, з затоеным пачуццём, гэты твор выконвае трыо з ансамбля «Свята» — Наталля Брацлоўская (сапрана), Святлана Голуб (альт) і Вячаслаў Статкевіч (тэнар).

Непаўторнае хараство тэксту песні надае акампанемент, вельмі ўзрушальная ігра на акарыне і скрыпцы. Тады задуменна-пяшчотна гучыць мелодыя, выклікаючы роздум, — і пераносіць на прастору, да блізкіх з маленства краявідаў, дзе на пералесках, уздоўж дарог, ля ручаёў вясною ў бялюткі вэлюм прыбіраецца каліна, а з цягам часу ўспыхвае чырвоным полымем жыцця.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

*ТЭКСТ І МУЗЫКА НАРОДНЫЯ*

*Калі каліна не цвіла,*
*То не ламай каліну.*
*Калі ты ў арміі не быў,*
*То не кахай дзяўчыну.*

***Прыпеў:***

*Я памятаю той жа час:*
*Ты плакала за мною,*
*На развітанне раз у раз*
*Махала хусцінаю.*

*Не трэба было разбіваць*
*Грачнёвыя паловы.*
*Не трэба было задаваць*
*Гарачае любові.*

***Прыпеў.***

*Калі каліна адцвіла,*
*Тады ламай каліну.*
*Калі ты армію адбыў,*
*Тады кахай дзяўчыну.*

***Прыпеў.***



## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталях:** 5. Вузкі праход паміж узвышшамі, вадаёмамі. 7. Шатландскі народны танец. 9. Тэхнічны прыём у боксе. 10. Жанр лірычнай мініяцюры ў беларускай прозе. 11. Гатунак тытуню. 12. Драпежная птушка сямейства ястрабіных. 15. Ліянападобная трапічная пальма. 18. Грашовая адзінка і манета ў Турцыі, Егіпце, Сірыі. 20. Беларускі сучасны кампазітар. 21. Жывапісны твор Я. Зайцава. 22. Ластаногая жывёліна сямейства цюленяў. 23. Сталіца афрыканскай дзяржавы. 24. Спартыўны снарад. 27. Горад у Гродзенскай вобласці. 30. Вышынная канструкцыя для мацавання антэн радыёстанцый. 33. Вытворчае падраздзяленне на заводзе, фабрыцы, у будоўлі. 34. Палажэнне, якое вызначае тую або іншую заканамернасць. 35. Лінія сувязі, камунікацыі. 36. Балотная шматгадовая расліна сямейства злакаў. 37. Адміністрацыйна-палітычнае падраздзяленне дзяржаўнай тэрыторыі.

**Па вертыкалях**: 1. Закрыты кузаў легкавога аўтамабіля. 2. Сузор'е Паўднёвага паўшар'я. 3. Страфа з дзесяці радкоў. 4. Руская народная рухавая гульня. 5. Казахскі струнны народны музычны інструмент. 6. Прыток Заходняй Дзвіны. 8. Няпоўны такт, з якога пачынаецца мелодыя. 13. Артыстка балета, народная артыстка Беларусі. 14. План мясцовасці, атрыманы пры геадэзічнай здымцы. 16. Хвост лісы на сленгу паляўнічых. 17. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Польшчы. 18. Адзінка вымярэння вадкасцей у Англіі, ЗША. 19. Натуральная або сінтэтычная карычневая фарба. 25. Музычны твор для трох выканаўцаў. 26. Шрыфт з раўнамернай таўшчынёй штрыхоў. 28. Рулонная ўзорыстая папера для абклейкі сцен, столі. 29. Прамысловая рыба сямейства ласосевых. 30. Сельскагаспадарчая прылада. 31. Тэхніка мастацкай апрацоўкі металічных вырабаў. 32. Кароткае алегарычнае апавяданне з выразна выказанай мараллю.

**Склаў Фёдар БЯЛЯЕЎ.**

*г. Жодзіна.*

### ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (28 верасня). Па гарызанталях:** 5. Паралакс. 6. Альтанка. 9. Славяне. 10. Павестка. 12. Балхаш. 13. Тол. 14. Стралец. 15. Закат. 18. Экран. 19. Драма. 20. Асяніна. 23. Рэкагнасцыроўка. 26. Гарчыца. 27. Міцар. 29. Ціхаў. 31. Карэя. 33. Трабзон. 34. Мол. 35. Арарат. 36. Камуфляж. 37. Клаксон. 38. «Інтурыст». 39. Гарнітур. **Па вертыкалях:** 1. Пакістан. 2. Юкала. 3. Плантаж. 4. Матрац. 5. Парадокс. 7. Аэрасані. 8. Светамаскіроўка. 9. Склад. 11. Ток. 12. Бейсбол. 15. Зарэчча. 16. Трэнд. 17. Анексія. 21. «Канцэрт». 22. Рынак. 24. Кальрабі. 25. Радыятар. 28. Раман. 29. Цэлулоід. 30. «Абеліск». 32. Ром. 36. «Колас».

**Крыптаграма (28 верасня).** Ключавыя словы: хамелеон, дзюба, яйцо, душ. Прымаўка зашыфраваная такая: «Шануй адзенне дома, а яно цябе — у людзях».

## УСХОДНІ ГАРАСКОП

КАЗЯРОГ атрымае доўгатэрміновы крэдыт для стварэння ўласнага прадпрыемства. Зоркі не раяць вам пры гэтым уступаць з кім-небудзь у партнёрскія адносіны. Старайцеся рабіць усё самі, і вы дасягнеце поспеху. Нягледзячы на справы і клопаты, у вас будзе дастаткова часу для сустрэч з дарагім сэрцу чалавекам.

ВАДАЛЕЙ да самага чацвярга не зможа развязацца з клопатамі і работай. Затое яе завяршэнне абяцае хуткую выгаду. Атрыманне нейкіх важных паведамленняў прымусіць вас адправіцца ў невялікае падарожжа. Магчыма і дзелавая паездка. У выпадку яе поспеху можаце разлічваць на павышэнне па службе.

РЫБЫ змогуць бліснуць талентамі, якія атрымаюць усеагульнае прызнанне. Дзяржслужачыя разам з авансам атрымаюць прэміяльныя, а бізнесменам прыйдзецца прыстасоўвацца да хуткага змянення сітуацыі на фінансавым рынку. Не пускайцеся ў рызыкоўныя аперацыі, з якімі не блытайце рамантычныя прыгоды. Яны вам не проціпаказаны.

АВЕНЫ адчуюць смак да работы. Нядаўна заключаны кантракт прынясе салідныя дывідэнды. Транспартныя праблемы можна будзе вырашыць з набыццём аўтамабіля. На асабістым фронце прыйдзецца сутыкнуцца з праблемамі, вырашаць якія трэба вам самім, не спадзеючыся на дапамогу іншых.

ЦЯЛЬЦЫ атрымаюць добрыя паведамленні, якія дапамогуць вам з вялікім аптымізмам глядзець у заўтрашні дзень. Вы сустрэнеце чалавека, з якім хацелі б пачаць сумесную справу. Тыдзень пройдзе ў дзелавых сустрэчах, нарадах і рабоце. Гэта не перашкодзіць рамантычным адносінам з блізкім чалавекам, да якога з'явіцца вялікае пачуццё.

БЛІЗНЯТЫ нечакана адшукаюць грошы, якія дапамогуць расплаціцца з крэдыторамі. Гэтай сумы хопіць і на новы праект у бізнесе. Трэба будзе толькі зрабіць правільны выбар і знайсці таго, хто дапаможа вам у гэтых пачынаннях. Зоркі раяць вам для адпачынку заняцца спортам або любімымі захапленнямі.

РАК з поспехам вырашыць цяжкую задачу, хоць узнагароду за гэта атрымае крыху пазней. На тыдзень прыйдзецца адкласці пачатак выканання плана па расшырэнню сваёй справы. Хатнія праблемы вырашацца да вашага задавальнення. А асабістае жыццё паднясе прыемныя сюрпрызы.

ІЛЬВА зацягне цякучка і не будзе часу, каб падумаць над новымі праектамі ў бізнесе. Магчыма з'яўленне сямейных клопатаў, з-за якіх прыйдзецца адкласці падарожжа за мяжу. Працей глядзіце на жыццё, і гэта дасць вам магчымасць знайсці адзіна правільнае выйсце з усіх цяжкіх сітуацый.

ДЗЕВА будзе задаволена ходам сваіх спраў. Гэта дазволіць вам крыху расслабіцца і заняцца чымсьці іншым, акрамя работы. У закаханых тыдзень пройдзе ў гарачым узаемным абажанні. Жанчыны адыдуць ад хатніх клопатаў і стануць удзельніцамі розных святочных мерапрыемстваў.

ШАЛІ атрымаюць ад начальства адабрэнне сваіх дзелавых прапаноў. Ва ўзнагароду ў некаторых з'явіцца магчымасць паглядзець на жыццё за мяжой. Прадстаўнікам творчых прафесій выпадзе поспех. Моладзь, якая пачала самастойную дзейнасць, хутка пойдзе ўгору і даб'ецца заслужанага прызнання.

СКАРПІЁН прыме важныя рашэнні, якія пойдуць вам на карысць. У рабоце і кар'еры чакаецца прарыў да поспеху. Адносіны з акружаючымі будуць цудоўнымі. Любімы чалавек, з якім давялося развітацца раней, вернецца, і жыццё зноў стане цудоўным.

СТРАЛЕЦ раптоўна разбагацее. Гэта адразу дазволіць вырашыць шмат праблем. Неабходна будзе з розумам распарадзіцца грашамі і ўкласці іх ва ўласны бізнес. Гандлёвыя аперацыі акажуцца паспяховымі. Будзьце ўважлівымі да партнёраў. З імі магчымы рознагалоссі, якія могуць адбіцца на вашым дабрабыце.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР-ТАСС.**
*г. Дэлі.*

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 5 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

**8.15** «Сугучнасць». Перадача з Брэста. **8.35** Рэспубліканскія спаборніцтвы па коннаму спорту. **9.05** Здароўе. Узроставыя асаблівасці здароўя падлеткаў. **9.40** Урокі Наталлі Наважылавай. **10.10** «Усё пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма. **10.35** «Ералаш». Гумарыстычны часопіс. **10.55** «Машачка і мядзведзь», «Пра бегемота, які баяўся прышчэпак». Мультфільмы. **11.30** Пераможца. Спартыўная праграма. **11.50** Шматгалоссе. Навукова-аналітычны цэнтр «Беларуская перспектыва». **12.20** Рэтраспектыва фільмаў кінарэжысёра В. Турава. «Сыны ідуць у бой». Маст. фільм. **13.55** Калаж. Праграма для дзелавых людзей. **14.25** Майстэрня. Мастак Уладзімір Тоўсцік. **14.45** Свет прыроды і захапленняў. **15.05** «Мальба». Прэм'ера дак. фільма Беларускага тэлебачання. **15.30** «Гісторыя кахання». Народныя артысты Беларусі З. Асмалоўская і Ю. Сідараў. **15.50** «Дажывём да панядзелка». Маст. фільм. **17.30** Галерэя. Дыпламат Віталь Смірноў. **18.00** «Дажынкі». І Рэспубліканскі фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі. Частка 2-я. **20.15** Банка коміксаў. **20.45** Калыханка. **21.00** Навіны. **21.45** Футбол. Адборачны матч чэмпіянату свету. Зборная Эстоніі—зборная Беларусі. **23.30** «Познія спатканні». Маст. фільм.

### ГРТ

**7.00** Прыгодніцкі фільм «Забудзьцеся на слова смерць». **8.30** Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл. **8.45** Хатняя бібліятэка. **9.00** Навіны. **9.15** «Не зявай!» **9.45** Ранішняя пошта. **10.20** Смак. **10.40** Траццякоўка. Гісторыя аднаго шэдэўра. **11.05** Сяргей Юрскі і Павел Луспекаеў у фільме «Рэспубліка ШКІД». **12.50** У свеце жывёл. **13.30** «Відавочнае — неверагоднае». **14.00** Навіны (з сурдаперакладам). **14.20** «Вяртанне на востраў скарбаў». Серыял. 5-я серыя. **15.10** «Давай мяняцца». Мультфільм. **15.20** Акно ў Еўропу. Вядучы — Д. Кісялёў. **15.50** Леанід Якубовіч у тэлегульні «Кола гісторыі». **16.35** Навіны. **16.55** «Залатая серыя». Год 1971-ы. Фільм Леаніда Гайдая «Дванаццаць крэслаў». **19.45** Добрай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** Ніколь Кідман у серыяле «В'етнам. Да запатрабавання». **21.50** Брэйн рынг. **22.35** Калекцыя Першага канала. Фільм Мілаша Формана «Валасы». **0.51** Праграма перадач.

### Расія

**7.50** «Малыш і Карлсан». Мультфільм. **8.10** «Мак і Матлі». Серыял. **8.30** Па вашых пісьмах. **9.00** Ваш партнёр. **9.15** Парламенцкі тыдзень. **10.00** Весткі ў адзінаццаць. **10.15** Тэлечасопіс «Здароўе». **10.30** Добрай раніцы. **10.55** Урача выклікалі? **11.25** Ананімныя субяседнікі. **11.50** Паэт у Расіі — больш, чым паэт. **12.15** Праўда аб гербалайфе. **12.25** Прасцей простага. **13.00, 19.00** Весткі. **13.20** «Сафі». Тэлесерыял. 3-я серыя. **14.10** Нічога, акрамя... **14.25** Дэ факта. **14.50** «Пастка для Бамбра», «Музычны магазінчык». Мультфільмы. **15.10** Сад культуры. **15.35** «Сібір. Здымкі супраць святла». Дак. фільм. **16.35** Свая гульня **17.05** І Сусветны фестываль цыркаў. Трансляцыя з Васільеўскага спуску. **18.00** «Каралева Марго». 9-я серыя. **19.35** Суботні вечар з Людмілай Зыкінай. **20.55** Надвор'е на заўтра. **21.00** Зусім сакрэтна. **21.55** Зроблена ў Галівудзе. «Тэрнер і Хуч». Маст. фільм. **23.40** І Сусветны фестываль цыркаў. Працяг.





*Сардэчна віншуем з юбілеем* ***Галіну Уладзіміраўну РАЧКОЎСКУЮ*** *з Мінска.*

*«Спі Галіна-Галюня», — гаварыла матуля,*
*Калыхала калыску, засыпала дзіця...*
*У далёкім дзяцінстве ўсім нам вельмі утульна,*
*Бо не зведаны сцежкі — сцежкі лёсу, жыцця.*
*А калі азірнешся, то ужо праляцела.*
*Не дагоніш, не вернеш.*
*Толькі пыл наўздагон...*
*Ну і што? Мы ж жывём!*

**Таня, Віктар, Наташа, Люся, Дзіна.**

*Сардэчна віншуем нашых дарагіх настаўнікаў* ***Лідзію Мікалаеўну Карамазаву, Антаніну Аляксееўну Касімоўскую, Людмілу Віктараўну Пазнякову*** *з Днём настаўніка.*

*Жадаем Вам захаваць хоць бы тое здароўе, якое яшчэ засталося. Мы ведаем, Вы — патрыёты сваёй прафесіі, таму што аддаваць усе свае сілы гэтай высакароднай справе за такую зарплату могуць толькі энтузіясты. Мы Вас любім і ганарымся Вамі.*

**Вашы мужы, хроснік, унукі.**




ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара). І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94.430. Індэкс 63850.
Зак. № 6494.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12